# БОЛЬШЭВІЦКІ Д[illegible]

ГАЛОЎНАЕ
Ў НУМАРЫ:



ЛЮТЫ
1935 г. 3

ЖУРНАЛ ЦК КП(б)Б

Выдавецтва ЦК КП(б)Б „Звязда"

Пролетары ўсіх краін, злучайцеся!

# Большэвіцкі друк

ЖУРНАЛ ЦК КП(б)Б

*Адказны рэдактар А. ДЖЭЛЮК*

ЛЮТЫ 1935 г. № 3 (27)

Выходзіць 2 разы ў месяц.

Адрас рэдакцыі і выдавецтва
МЕНСК, Совецкая 63, тэл. 22412

## ВЫШЭЙ РЭВОЛЮЦЫЙНУЮ ПІЛЬНАСЦЬ!

Закончыўшыйся судовы працэс па справе Зіноўева, Каменева, Еўдакімава і інш., прыцягнутых да адказнасці ў сувязі з раскрыццём у Ленінградзе падпольнай контррэволюцыйнай групы, падрыхтаваўшай і ажыццявіўшай гнуснае забойства лепшага сына партыі Сергея Міронавіча **Кірава,** паказвае ўсю гнуснейшую контррэволюцыйную здрадніцкую ролю белагвардзейцаў-зіноўеўцаў.

Ідэйныя натхніцелі і выхаваўцы фашысцкіх забойцаў з «ленінградскага цэнтра» Зіноўеў і Каменеў, працуючы ў контррэволюцыйным падпольным «маскоўскім цэнтры», ведалі аб тэрарыстычных настроях, распальвалі іх і благаслаўлялі на гнуснейшае фашысцкае злачынства зладзеяў-фашыстаў Нікалаева, Каталынава, Румянцэва і ім падобных.

Іх яднала адна платформа—лютая злосць, нянавісць да партыі, да яе кіраўніцтва, нянавісць да будаўніцтва сацыялізма, якое атрымала такія грандыёзныя перамогі, насуперак іх контррэволюцыйным «тэорыям».

Аб'яднаўшыся на даўным-даўно разбітай жыццём, абшарпанай трацкісцка-зіноўеўскай платформе — платформе рэстаўрацыі капіталізма, гэтыя здраднікі-правакатары ішлі на ўсякія гнуснейшыя злачынствы, каб дабіцца кіруючага становішча ў партыі і ўрадзе і заняць там высокія пасты.

«**Двурушніцтва** было асноўнай запаведдзю контррэволюцыйнай банды зіноўеўцаў, было асноўным метадам зносін іх з партыяй... Зіноўеўская фракцыйная група, зараз разгромленая да канца, была самай здрадніцкай і самай пагарднай з усіх фракцыйных груп у гісторыі нашай партыі. Па сутнасці яна была замаскаванай формай белагвардзейскай арганізацыі, зусім заслугоўваючай, каб з яе членамі абыходзіліся як з белагвардзейцамі».

Цяжка пералічыць колькасць злачынстваў, зробленых гэтымі людзьмі супроць пролетарскай рэволюцыі.

Зіноўеў і Каменеў не раз выступалі супроць Леніна і яго партыі яшчэ ў дарэволюцыйныя гады. Хто не памятае гэтых штрэйкбрэхераў у 1917 годзе!

Яны на ўсім працягу існавання савецкай улады імкнуліся падарваць яе магутнасць. Іх метады двурушніцтва служылі той шырмай, за якою яны хавалі свой подлы контррэволюцыйны твар.

Разбітыя ў адкрытым баі, пазбаўленыя ўсякай апоры ў масах, тройчы праклятыя зіноўеўскія белагвардзейцы самкнуліся з агалцелымі белагвардзейцамі і фашыстамі за граніцай і сталі на шлях нечуванага зладзейства, на шлях індывідуальнага тэрору.

Пролетарскі суд выканаў волю мільёнаў працоўных не толькі Совецкага Саюза, але і ўсяго свету і зусім заслужана жорстка пакараў белагвардзейцаў-зіноўеўцаў. Пролетарыі і ўсе працоўныя з велізарным уздымам сустрэлі прыгавор, бо гэта прыгавор мільёнаў, якія ўсімі фібрамі душы ненавідзяць і празіраюць наймітаў міжнародных інтэрвентаў, агалцелых трацкісцка-зіноўеўскіх бандытаў.

Агалцелая банда зіноўеўцаў разлічва



ла на крах соцыялістычнага будаўніцтва. Яна ўсімі сіламі дапамагала ворагам рэволюцыі рыхтаваць інтэрвенцыю. Але іх надзеі грозна апракінуў пераможна шэфствуючы пролетарыят.

Наша партыя, кіруемая найвялікшым геніем чалавецтва, вялікім **Сталіным** высока нясе сцяг ленінізма, бадзёра і ўпэўнена вядзе масы ад перамогі да перамогі.

Перамагла генеральная лінія партыі.

Вялікі і агрмадны нашы поспехі. За 17 год з часу Окцябрскай рэволюцыі краіна советаў набыла новае аблічча. Створана соцыялістычная індустрыя, на аснове яе рэканструявана сельская гаспадарка на соцыялістычны лад. На аснове суцэльнай калектывізацыі разгромлена кулацтва як клас. Соцыялістычная ўласнасць стала асновай нашага ладу.

«... Мы можам цяпер сказаць: Расія нэпаўская стала Расіяй соцыялістычнай. Наша краіна пераўтварылася. У асноўным гэта вялікая задача, пастаўленая Леніным, намі выканана. Клятва, даная ўшоўшаму Леніну 11 год назад тав. Сталіным выканана». **(Молатаў).**

Такавы вынікі барацьбы і перамог, атрыманыя намі пад кіраўніцтвам ленінскай партыі і вялікага Сталіна на ўсіх фронтах соцыялістычнага будаўніцтва. Разбіты ўшчэнт трацкісты-зіноўеўцы і выкінуты ў смяццёвую яму гісторыі іх контррэволюцыйныя, прадажніцкія «тэорыі». Разбіты і правыя апартуністы і іх кулацкія «тэорыйкі». Соцыялізм перамог канчаткова і беспаваротна як у прамысловасці, так і ў сельскай гаспадарцы.

Класавы вораг разбіт, але недабіт. Астаткі разгромленых варожых класаў будуць і ў далейшым імкнуцца аказваць шалёнае супраціўленне разгорнутаму наступленню соцыялізма.

На XVII з'ездзе партыі, заклікаючы да пільнасці, тав. **Сталін** падкрэсліў, што «ўсё яшчэ існуе капіталістычнае акружэнне, якое стараецца ажыўляць і падтрымліваць перажыткі капіталізма ў эканоміцы і свядомасці людзей у СССР, і супроць якога мы, большэвікі, павінны трымаць порах сухім».

Толькі правыя апартуністы з іх апартуністычнай «тэорыяй» «мірнага ўрастання кулака ў соцыялізм» могуць думаць, што па меры нашага прасоўвання да поўнага соцыялістычнага грамадства, ворагі пролетарыята будуць становіцца «ручнымі» і «безобидными».

«Трэба мець на ўвазе,—гаварыў тав. **Сталін,**—што рост магутнасці совецкай дзяржавы будзе ўзмацняць супраціўленне апошніх астаткаў паміраючых класаў. Іменна таму, што яны паміраюць і дажываюць апошнія дні, яны будуць пераходзіць ад адных форм наскокаў да другіх, больш рэзкіх форм наскокаў, апялююючы к адсталым слаям насельніцтва і мабілізуючы іх супроць совецкай улады. Няма такой пакасці і паклёпу, якога-б гэтыя былыя людзі не ўзвялі на совецкую ўладу і вакол якіх не папрабавалі-б мабілізаваць адсталыя элементы. На гэтай глебе могуць ажыць і заварушыцца разбітыя групы старых контррэволюцыйных партый: эсэраў, меншавікоў, буржуазных нацыяналістаў цэнтра і акраін, могуць ажыць і заварушыцца астаткі контррэволюцыйных элементаў з трацкістаў і правых ухілістаў. Гэта, зразумела, не страшна. Але ўсё гэта трэба мець на ўвазе, калі мы хочам пакончыць з гэтымі элементамі быстра і без асаблівых ахвяр. Вось чаму рэволюцыйная пільнасць з'яўляецца той самай якасцю, якая асабліва неабходна цяпер большэвікам».

Як вучыць нас наш вялікі правадыр таварыш **Сталін,** няўхільнае павышэнне большэвіцкай пільнасці з'яўляецца неабходнай якасцю большэвіка. На наш друк, як на астрэйшую зброю нашай партыі, ускладзены выключна вялікія і адказныя задачы.

Друк павінен нязмерна высока падняць рэволюцыйную пільнасць. Трэба рашуча і бязлітасна выкрываць усякія манеўры класавага ворага і яго агентуры. Трэба выхоўваць масы ў духу большэвіцкай непрымірымасці, у духу паднятия рэволюцыйнай большэвіцкай пільнасці, так, як гэтаму вучыць нас ленінская партыя і вялікі **Сталін.**

Трэба рашуча і беспаваротна пакончыць з элементамі злачыннай безадказнасці ў самых газетах. Можна было-б прывесці нямала прыкладаў з раённых, ды і некаторых рэспубліканскіх газет, калі дапускаецца рад буйнейшых «тэх-

ічных» памылак, перарастаючых у грубыя палітычныя памылкі.

Большэвікам-журналістам не да твару ссылка на тэхнічныя прычыны, толькі безнадзейныя апартуністы могуць звальваць віну на каго хочаце, толькі не на сваю безадказную работу.

Газета павінна быць партыйна завостранай, большэвіцкі насычанай. Усякая памылка наносіць аграмаднейшую палітычную шкоду.

Газеты абавязаны дапамагчы партыйным арганізацыям без астатка да канца ўскрыць прытаіўшыхся трацкісцка-зіноўеўскіх падонкаў, групоўкі, бязлітасна іх выяўляць і рашуча расправіцца з гэтымі падонкамі. Нельга дапусціць, каб большэвіцкую трыбуну ў газеце маглі скарыстаць усякія антысавецкія контррэвалюцыйныя элеметы.

Газета павінна рабіцца большэвіцкі «чыстымі» рукамі. Усякія прымазаўшыеся да друку элементы, пад якога-б роду маскай яны ні хаваліся, павінны бязлітасна выкрывацца і выганяцца. Гэта асабліва трэба мець на ўвазе нам, журналістам Савецкай Беларусі, працуючым на самым рубяжы з капіталістычным Захадам.

Мацней, палітычна больш насычана, больш глыбока трэба паставіць прапаганду марксізма-ленінізма на старонках друку. Вывучэнне і выкладанне гісторыі партыі, пытанняў ленінізма, вывучэнне ўсіх і ўсякіх антыленінскіх груповак—вось што павінна быць пастаўлена ў цэнтры ўвагі як у самым апараце рэдакцыі, так і на старонках газет.

Прапаганда вучэння Маркса, Энгельса, Леніна, Сталіна — важнейшая ўмова ў рабоце ўсяго нашага друку.

Безупынна павышаць рэвалюцыйную пільнасць, яшчэ непрымірымей змагацца з класавым ворагам і яго агентурай—першайшы абавязак нашага большэвіцкага друку.

---

**ДОБРУШСКАЯ**
**папяровая ф-ка**
**„Герой працы"**



Бункерная пляцоўка падвеснай дарогі

## АБ КУЛЬТУРЫ І ВУЧОБЕ РАБОТНІКАЎ РЭДАКЦЫІ

***

А. ЦЫПІНА

# ПРА РЭДАКТАРА

## ФАБРЫЧНА-ЗАВОДСКАЙ ГАЗЕТЫ

Нязмерна вырас за апошнія гады культурна-палітычны ўзровень самых шырокіх мас рабочых і ў сувязі з гэтым нязмерна выраслі патрабаванні, якія прад'яўляюцца зараз фабрычна-заводскім газетам—«калектыўным агітатарам, прапагандыстам і арганізатарам» — рабочых мас.

Фабрычна-заводская шматтыражка заклікана дапамагаць партыйнай арганізацыі арганізоўваць рабочых на барацьбу за ажыццяўленне грандыёзных задач будаўніцтва бяскласавага соцыялістычнага грамадства, за выкананне і перавыкананне промфінплана, аўладанне соцыялістычнай тэхнікай, за культуру работы. Выхоўваць у рабочых соцыялістычныя адносіны да працы, да соцыялістычнай маёмасці, узнімаць іх культурны і палітычны ўзровень.

Газету робяць людзі. Ад таго, хто кіруе газетай, хто яе непасрэдна робіць, ад іх культурнай і палітычнай падрыхтаванасці, іх умення арганізоўваць работу, арганізоўваць людзей залежыць, наколькі справіцца газета з тымі адказнымі і пачэснымі задачамі, якія на яе ўскладзены. І перш за ўсё гэта датычыць рэдактара шматтыражкі.

У БССР выдаецца звыш 60 фабрычна-заводскіх шматтыражак. Што прадстаўляюць сабою рэдактары гэтых шматтыражак?

Мы не маем сёння дакладных матэрыялаў аб усіх рэдактарах фабрычна-заводскіх газет БССР. Але і тыя матэрыялы, якія ёсць у нашым распараджэнні, характарызуюць склад і работу большасці рэдактароў фабрычна-заводскіх шматтыражак.

Перад намі **анкета «Большэвіцкага друка»**, запоўненая 16 рэдактарамі шматтыражак Віцебска, Гомеля, Менска, Бабруйска і Барысава.

Усе 16 рэдактароў — члены партыі, пераважная большасць (13 чалавек) рабочыя. Толькі 3 рэдактары з 16 маюць сярэднюю асвету.

9 рэдактароў з 16 не маюць ніякай спецыяльнай падрыхтоўкі, толькі 1 скончыў Комуністычны інстытут журналістыкі, 1 — факультэт друку пры вышэйшай школе профруху, 3 таварышы прайшлі толькі 6 месячныя курсы газетных работнікаў пры КІЖ'ы БССР, 2—трохмесячныя курсы. Пераважная большасць—зусім маладыя газетныя работнікі: 4 чалавекі працуюць у газеце ад 1 да 3 месяцаў, 5 чалавек — ад 5 да 7 месяцаў і толькі 7 чалавек маюць стаж газетнай работы ад 3 да 4 год.

Пры такім становішчы вельмі востра стаіць пытанне аб вучобе, аб сур'ёзнай рабоце рэдактара над сабой як у сэнсе агульнай і палітычнай падрыхтоўкі, так і, асабліва, у сэнсе ўзняцця сваёй газетнай кваліфікацыі.

«Большэвіцкі друк» у № 23 у артыкуле **«Аб культуры газет і газетчыкаў»** пісаў:

«Газетны работнік, пастаўлены партыяй на гэты важнейшы ўчастак, абавязан перш за ўсё сам мець пэўную суму ведаў і клапаціцца аб сістэматычным набыванні свайго палітычнага і культурнага ўзроўню».

Між тым, іменна работа над сабой, вучоба з'яўляецца самым слабым месцам рэдактароў шматтыражак.

Толькі 5 рэдактароў з 16 займаюцца ў семінарах рэдактароў шматтыражак пры рэдакцыях віцебскай і гомельскай газет. Толькі 1 з 16 рэдактароў чытае журнал ЦК ВКП(б) **«Большевистская пе-**

чать», толькі 7 рэдактароў чытаюць журнал «**Фабрично-заводская печать**», разлічаны іменна на рэдактароў фабрычна-заводскіх газет. Толькі 10 рэдактароў з 16 чытаюць сістэматычна «**Большэвіцкі друк**». 2 рэдактары не выпісваюць і не чытаюць ні аднаго спецыяльнага журнала. Ні адзін з 16 рэдактароў не прачытаў за апошнія 3-4 месяцы ні адной кнігі па пытаннях работы газеты, рабселькораўскага руху.

Таварышы не працуюць над павышэннем сваіх ведаў газетнай работы і ў гэтым асноўная прычына буйнейшых недахопаў у рабоце раду фабрычна-заводскіх газет.

Лепш абстаіць справа з палітвучобай. 6 рэдактароў навучаюцца ў вячэрніх і завочных комвузах, 6—у марксісцка-ленінскіх гуртках. Але ёсць рэдактары, якія не працуюць не толькі над узняццем сваёй газетнай кваліфікацыі, але не займаюцца і павышэннем свайго ідэйна-палітычнага ўзроўню. Рэдактар шматтыражкі завода «Чырвоны металіст» (Віцебск) т. **Гурэвіч**, шматтыражкі фабрыкі «Окцябр» (Менск) т. **Памяранец** нідзе не займаюцца. Зусім зразумела, што гэта не можа не адбіцца на партыйнасці, палітычнай завостранасці матэрыялаў, што змяшчаюцца ў рэдагуемых гэтымі таварышамі шматтыражках.

За апошнія гады пяэмерна вырасла цяга рабочых да культуры, да мастацкай літаратуры. Гэта не можа не адбіцца і на тэматыцы фабрычна-заводскай газеты. Рабочы хоча прачытаць зараз у сваёй шматтыражцы і рэцэнзію на тую ці іншую мастацкую кнігу, і водзывы на тэатральныя пастаноўкі, кіно-фільмы, ён хоча пагаварыць аб прачытанай ім кнізе, аб п'есе, якую ён глядзеў у тэатры, з рэдактарам сваёй шматтыражкі.

Ці зможа задаволіць узросшыя культурныя патрабаванні рабочых газета, рэдактар якой не знаём з лепшымі творамі мастацкай літаратуры, не чытае іх, не наведвае кіно, тэатраў? Безумоўна, не.

Значная частка рэдактараў фабрычна-заводскіх газет зразумелі гэта, сур'ёзна працуюць над узняццем свайго культурнага ўзроўню.

Рэдактар шматтыражкі фабрыкі «Сцяг індустрыялізацыі» т. **Фляумбаум** прачытаў за апошнія два месяцы такія кнігі, як «Маці», «Мае універсітэты» М. Горкага, «Большэвікі ў Дзяржаўнай Думе» Бадаева, «Андрэй Кожухаў», 4-5 раз у месяц наведвае кіно, тэатр. Рэдактар шматтыражкі фабрыкі «Беэувій» т. **Гіршын** прачытаў за апошні час «Я люблю» Аўдзеенкі, «Петр 1-й» А. Талстога, «Овод» Войніча і інш. Тав. **Міхлін** (завод імя Кірава, Гомель) за гэты-ж час прачытаў «Поднятую целину», «Большой конвеер», «Капитальный ремонт», «Американскую трагедию».

Але побач з гэтым ёсць і такія рэдактары, якія не прачыталі за апошнія 2-3 месяцы ні адной мастацкай кнігі: тт. **Мішкін** (Бярэзінскі камбінат), **Памяранец** (фабрыка «Окцябр»), **Рудэльсон** (фабрыка імя Клары Цэткін), **Вайман** (шчотачны камбінат), **Магергут** (фабрыка «КІМ» — Віцебск).

Як можа такі рэдактар рабіць культурную газету, узнімаць культурны ўзровень сваіх чытачоў?

«Некультурны рэдактар не можа рабіць культурную газету» — гэта ўказанне загадчыка аддзела культуры і прапаганды ленінізма ЦК КП(б)Б тав. **Коніка** на нарадзе работнікаў газет — завочнікаў КІЖ'а, абавязаны ўлічыць усе рэдактары фабрычна-заводскіх шматтыражак.

Надзвычайна бедная мова, дрэнны стыль, няграматнасць газеты — вось вынікі таго, што рэдактар не чытае мастацкай літаратуры, не працуе над узняццем свайго культурнага ўзроўню.

Дзе прычыны таго, што рэдактары фабрычна-заводскіх шматтыражак слаба працуюць над сабой? Звычайна на такое пытанне рэдактар адказвае: «Няма часу вучыцца, работнікаў у газеце мала».

Спасыланне на перагрузку, на адсутнасць часу нічым не ўгрунтавана. Папрабуем давесці гэта на даных той-жа анкеты «Большэвіцкага друку».

З 16 газет, рэдактары якіх запоўнілі анкету, 8 выходзяць толькі 3 разы ў месяц, прычым 5 з гэтых штодэкадных

газет маюць толькі аднаго аслабанёнага работніка (рэдактар), 3 газеты — 2 работнікаў. 7 газет выходзяць 5—6 раз у месяц. З іх 4 маюць па 3 аслабанёных работнікі і 3 па 2 работнікі. І толькі адна газета «Сцяг індустрыялізацыі» выходзіць 20 раз у месяц. У гэтай газеце працуюць 4 аслабанёныя работнікі.

Ці можна пры такіх умовах знайсці штодзённа 2-3 гадзіны для вучобы, для работы над сабой? Безумоўна можна. Гэта датычыць не толькі тых газет, у якіх працуюць 3 работнікі, але і тых, дзе ёсць толькі адзін работнік. Справа толькі ў жаданні, ва ўменні арганізаваць сваю работу, свой рабочы дзень, уменні арганізаваць вакол газеты рабкораўскі актыў. Вось аб гэтым мы і хочам пагаварыць зараз.

«Неарганізаванасць рабочага часу, адсутнасць сістэмы ў рабоце, раскіданасць прыводзіць да таго, што часта прападаюць цэлыя гадзіны за нішто»— пісаў **«Бальшэвіцкі друк»** у артыкуле «Аб культуры газет і газетчыкаў».

Арганізацыя работы рэдакцыі перш за ўсё залежыць ад плана арганізацыйна-масавай работы, ад планавання зместу газеты. Гэтага плана няма ў большасці фабрычна-заводскіх газет. У лепшым выпадку складаюцца планы на 1-2 нумары газеты, у горшым—і такіх планаў няма.

Звернемся зноў да анкеты «Большэвіцкага друку». На пытанне «ці ёсць у вас план работы рэдакцыі» 5 рэдактароў адказалі: «План складаем на кожны нумар»; 3 рэдактары: «Складаем план на 2 нумары» і толькі 4 рэдактары заявілі, што яны маюць месячны план работы. Астатнія 4 абмежаваліся лаканічным адказам: «План ёсць». Якія гэта планы — ці планы асобных нумароў, ці планаванне тэматыкі газеты на пэўны перыяд часу, план арганізацыйна-масавай работы — гэта астаецца «сакрэтам» рэдактара.

А ў выніку рабочы дзень у большасці рэдактароў і астатніх работнікаў газеты праходзіць неарганізавана, траціцца на нішто шмат часу, людзі не ведаюць з чаго пачынаць. Большасць рэдактароў пачынаюць свой рабочы дзень з абходу цэхаў, гутарак з рабочымі, гэта значыць «арганізоўваюць матэрыял» для чарговага нумара газеты. Але пры адсутнасці цвёрдага плана гэтыя гутаркі, абход цэхаў не дасягаюць мэты.

На фатаграфіі рабочага дня рэдактара шматтыражкі мінскага хлебакамбіната тав. **Язмір** (глядзі 1-2 нумар журнала за студзень 1935 года) мы паказалі, ва што выліваецца гэты абход цэхаў, калі рэдактар на працягу 40-50 мінут у часе работы гутарыць з дзесяткам рабочых, брыгадзіраў, майстраў.

Праверка работы шматтыражкі і нізавога друку бабруйскага лесакамбіната паказала, што наведванне работнікамі газет цэхаў, гутаркі з рабочымі ператвараюцца фактычна ў «майстраванне» заметак на аснове пачутых размоў рабочых паміж сабой, ці па аснове 5-хвілінай гутаркі прадстаўніка рэдакцыі з рабочымі. Зразумела, якая можа быць якасць гэтых «арганізаваных» матэрыялаў.

Што-ж робяць рэдактары паміж выхадам газеты?

«Працую з рабкорамі, кірую штодзёнкамі, бываю ў цэхах, арганізоўваю матэрыял» (**Цыркіна,** фабрыка імя 8 сакавіка — Менск).

«Складаю план нумара. Арганізоўваю матэрыял, распрацоўваю асобныя матэрыялы на месцах (**Мішкін** — Бярэзінскі камбінат). «Складаю падрабязны план нумара. Па плану арганізоўваю матэрыял у розных формах (брыгадны індывідуальны і т. д.) (**Памяранец** — фабрыка «Октябр» — Менск).

Гэтыя адказы тыповыя.

Праўда, значнае месца ў рабоце рэдактароў паміж выхадам газеты займае работа з рабкорамі, з рэдкалегіямі насценгазет. На швейнай фабрыцы імя Дзержынскага (Бабруйск) за апошнія 2-3 месяцы праведзены тры нарады рабкораў, трохдзённыя курсы рэдактароў насценных газет. На заводзе «Чырвоны металіст» (Віцебск) праведзены курсы рэдактароў на 30 чалавек, 6 нарад рэдкалегій цэхавых і брыгадных газет. На фабрыцы «Везувій» (Гомель) штомесячна праводзіцца «Дзень рабкора», 2 разы ў месяц працуе рабкораўскі семінар. Трэба сказаць, што на радзе прадпрыем-

ствая работа з рабкорамі і рэдкалегіямі насценгазет за час падрыхтоўкі да ўсебеларускага з'езда рабсолькораў значна ажывілася. Але адсутнасць цвёрдага плана адбіваецца і на гэтай рабоце. Невыпадкова частка рэдактароў шматтыражак на пытанне анкеты «Бальшэвіцкага друку» «Якую работу з рабкорамі і рэдкалегіямі насценгазет правялі за апошнія 2-3 месяцы» адказалі самымі агульнымі словамі.

«Нарады рабкораў, вучоба рабкораў, рабкораўскія злёты» (**Цыркіна** — фабрыка імя 8 сакавіка Менск).

«Арганізован літаратурны гурток. Іншы раз калектыўны паход у кіно, тэатр, летам катанне на лодках» (завод «Пралетарый» — Гомель).

«Праведзена нарада, юбілей 200 нумара штодзёнкі і асабіста гавару кожны дзень з кожным рэдактарам». (**Магергут** — фабрыка КІМ, Віцебск).

«Злёты рабкораў, перапіска і інструктаж» (**Старнін** — леспрамгас і сплаўкантора).

«Праводжу гутаркі з рабкорамі і нарады рэдактараў насценгазет» і т. д. і т. д.

Якія злёты, па якіх пытаннях, што гэта за перапіска — з кім і аб чым, аб гэтым пераліганыя вышэй рэдактары не гавораць, бо ў іх няма плана работы газеты, работы з рабкорамі.

Вось чаму рэдактарам фабрычна-заводскіх шматтыражак прыходзіцца траціць столькі часу на арганізацыю матэрыялаў, вось чаму так неарганізавана праходзіць іх рабочы дзень, вось чаму ў іх часта не астаецца часу для вучобы, чытання мастацкай літаратуры, наведвання кіно, тэатра.

Планавасць у рабоце, арганізацыя вакол газеты моцнага рабкораўскага актыва дасць магчымасць рэдактару правільна наладзіць работу, арганізаваць свой рабочы дзень так, каб аставаўся час і для паглыбленай работы над сабой, для ўзняцця свайго культурнага і палітычнага ўзроўню, сваёй газетнай кваліфікацыі.

А без гэтага — без сістэматычнай, глыбокай работы над сабой, немагчыма зараз работа ў партыйнай газеце.





**Юнкоры—дэлегаты ўсебеларускага з'езда юнкораў у рэдакцыі клімавіцкай раённай газеты «Комуна».**

# Яшчэ лепш вучыцца і працаваць

Надрукаваныя ніжэй выступленні чатырох работнікаў **лепельскай** раённай газеты **«Калгасная праўда»** аб іх вучобе, аб іх палітычным і культурным росце настолькі яркі і канкрэтны, што амаль не патрабуюць спецыяльных каментарыяў. Таму мы абмяжуемся толькі некаторымі заўвагамі.

Што прадстаўляюць сабою работнікі «Калгаснай праўды»? Усе яны ў мінулым актыўныя селькоры. Прышлі яны ў рэдакцыю з багатым вопытам селькораўскай работы, але не ведалі нават асноў газетнай справы. Палітычны і культурны ўзровень таварышоў у той час быў таксама не вельмі высокім.

Так пачалася работа ў газеце і т. **Садоўскага, і Шыфрыной, і Дзесюкевіча і Чарняўскага.** Кожны з іх па-свойму перажываў труднасці першых месяцаў работы ў газеце. Але ўсе таварышы пашлі па аднаму шляху—**узяліся за вучобу, за ауладанне газетнай тэхнікай, за павышэнне свайго палітычнага і культурнага ўзроўню.**

Тав. Дзесюкевіч у сваім артыкуле піша, што ён, параўноўваючы сваё нядаўняе мінулае з цяперашнім, не пазнае сябе—настолькі палітычна граматней і культурней ён стаў. Гэта-ж можна сказаць і пра т. Садоўскага, які прайшоў у рэдакцыі шлях ад інструктара да намесніка рэдактара, і пра т. Чарняўскага—у мінулым літработніка, стаўшага цяпер добрым сакратаром рэдакцыі, і пра т. Шыфрыну.

Варта пагаварыць з любым работнікам «Калгаснай праўды», каб пераканацца, што перад вамі палітычна граматны, культурны газетны работнік. Таварышы добра разбіраюцца ў рашэннях партыі і разам з тым гатовы гадзіну спрачацца аб характарыстыцы герояў «Петра Первого» ці шолахаўскай «Поднятой целины», аб пастаноўках маскоўскіх оперных тэатраў (оперы слухаюць па радыё) і аб апошніх палітычных і культурных падзеях у СССР і за мяжой.

Можа работнікі «Калгаснай праўды» працуюць у нейкіх асаблівых умовах, якія розняцца ад умоў іншых раённых газет? Нічога падобнага. Кожнаму з іх хапае рэдакцыйнай работы, але славутая «перагрузка», якою так часта асобныя газетныя работнікі імкнуцца апраўдаць сваё нежаданне вучыцца, для работнікаў лепельскай газеты не з'яўляецца перашкодай у вучобе.

Многія рэдакцыі раённых газет яшчэ не маюць таго, што ёсць у рабоце рэдакцыі «Калгаснай праўды» — гэта **планавасці ў рабоце, строгага рэжыму рабочага дня рэдакцыі.** Тут работнікі не бадзяюцца гадзінамі па рэдакцыі без справы, а кожны сёння ведае, што ён павінен будзе рабіць заўтра і паслязаўтра. Таму ім няма патрэбы працаваць вечарамі і вольны свой час яны аддаюць рабоце над сабой і культурнаму адпачынку.

Але ці толькі лепельскай газеце даступна такая арганізацыя работы? **Так можа і так павінна арганізаваць работу кожная раённая газета.** Узяцца за гэту справу павінны перш за ўсё рэдактары газет, а таксама партарганізатары рэдакцый, калі яны хочуць, каб работнікі рэдакцыі вучыліся, раслі, павышалі сваю кваліфікацыю. Знішчыць бесталкоўшчыну, хаос, бясплanавасць у рэдакцыі, завесці строгі і дакладны расклад здачы матэрыялаў у набор, вёрсткі і друкавання газеты—вось чаго нашы рэдакцыі павінны дабіцца ва што-б там ні стала.

Рэдактар «Калгаснай праўды» т. **Бароўскі** гэтымі днямі мяркуе правесці наступнае мерапрыемства. У рэдакцыю прынясуць і павесяць на сцяну вялікую геаграфічную карту свету. Выкладчык геаграфіі мясцовай дзесяцігодкі прачытае лекцыю па геаграфіі рэдакцыйным работнікам. Ён таксама будзе правяраць іх веды ў гэтай галіне, вель-

мі неабходныя журналістам.

— Хачу ведаць,—кажа т. Вароўскі, наколькі мае работнікі ведаюць, дзе знаходзяцца гарады і дзяржавы, аб якіх мы пішам у кожным нумары. Калі высветліцца, што слаба ведаюць, наладжу ў рэдакцыі рэгулярныя заняткі па геаграфіі.

Так кожны рэдактар павінен цікавіцца тым, як вучацца рэдакцыйныя работнікі, якія ў іх веды ў галіне палітыкі, эканомікі, літаратуры, якія кнігі работнікі чытаюць. Гэта рэдактар павінен ведаць для таго, каб своечасова ,дапамагчы работніку рэдакцыі ў яго вучобе, даць патрэбную параду, указаць яму патрэбную літаратуру і дапамагчы яе набыць. Рэдактары павінны памятаць, што словы тав. **Сталіна** аб увазе да сумленных работнікаў, аб выхоўванні іх адносяцца не толькі к прамысловасці, але і к работнікам газет.

Трэба сказаць і аб памяшканні рэдакцыі «Калгаснай праўды», бо яно адыгрывае немалую ролю ў забеспячэнні нармальных умоў работы і вучобы работнікаў рэдакцыі.

Смела можна сказаць, што такога памяшкання, якое мае «Калгасная праўда», не мае яшчэ большасць нашых ,раённых газет. Але справа не ў самым будынку рэдакцыі. Ён значна горшы, чым будынкі другіх рэдакцый. Справа ў чыстаце, у культурнасці рабочых пакояў. Усё ў рэдакцыі акуратна: камплекты маюць сваё месца, на сталах не ўбачыце папяровага хаосу, чыстая падлога, цёпла і светла.

На стале сакратара рэдакцыі стаіць чатырохлямпавы радыёпрыёмнік. Кожны вечар работнікі рэдакцыі збіраюцца паслухаць перадачы з Масквы, Менска, а раніцою прымаюць апошнія навіны па радыё. У рэдакцыі ёсць шахматы. У вольную хвіліну пасля работы работнікі рэдакцыі часта праводзяць за імі гадзіну-другую.

Для работнікаў рэдакцыі набыта бібліятэка палітычнай і мастацкай літаратуры. Выпісваюцца журналы «Красная новь», «Октябрь», «Молодая гвардия», «Полымя рэволюцыі».

Усё гэта—і радыё, і бібліятэка, і літаратурныя журналы, і чыстая падлога, і шахматы—зусім не дробязь. Усё гэта спрыяе і паспяховай рабоце газетнага работніка і яго палітычнаму і культурнаму росту.

Ці могуць усё гэта завесці іншыя рэдакцыі раённых газет? Вядома, могуць і павінны.

Не будзем паўтараць аб недахопах, якія усё-ж ёсць у вучобе работнікаў лепельскай газеты і аб якіх таварышы сказалі ў сваіх артыкулах. Правільна робіць тав. Шыфрына, калі яна патрабуе (гл. артыкул «Не мыслю работы без вучобы») паставіць на належную вышыню **калектыўную** вучобу ў рэдакцыі. Імення гэта справа ў рэдакцыі пастаўлена яшчэ не зусім добра. Аб тым, што такая калектыўная вучоба патрэбна, гавораць і наступныя факты.

Нядаўна ў рэдакцыю ўзят актыўны селькор **А. Палонскі.** За месяц работы ў рэдакцыі ён паспеў навучыцца толькі... надпісваць адрасы і адпраўляць пісьмы. Апрача газеты нічога больш не чытае. Палітшколы не наведвае. Горш за ўсё тое, што ў рэдакцыі амаль не звярачаюць увагі на гэтага маладога работніка. Задача-ж рэдакцыі, калі яна ўзяла на работу актыўнага селькора, не марынаваць яго на тэхнічнай рабоце, не рабіць з яго канцэлярыста, а вучыць яго газетнай справе, дапамагаць яму палітычна і культурна расці.

Ёсць у рэдакцыі і т. **Пачкаева**—інструктар сельгасаддзела. Яна скончыла Магілеўскі газетны тэхнікум. І шэсць месяцаў работы ў «Калгаснай праўдзе», як яна сказала, далі ёй вельмі многа ў сэнсе практыкі. Але і яна скардзіцца на адсутнасць у рэдакцыі сістэматычнай газетнай і літаратурнай вучобы.

— Мне не ўказваюць, — гаворыць тав. Пачкаева,—на недахопы напісаных ці апрацаваных мною заметак. Мацнейшыя работнікі падпраўляюць гэтыя заметкі, ні слова мне не сказаўшы, пасылаюць іх у набор. Змены ў заметках я бачу толькі пасля выхаду нумара.

Рэдакцыя цяпер прыняла рад мер для наладжання ўнутрырэдакцыйнай **газетнай і літаратурнай** вучобы. Аб іх ніжэй падрабязна расказвае т. Садоўскі ў сваім артыкуле «Як мы будзем вучыцца ў 1935 годзе». Трэба толькі пажадаць, каб усё намечанае было зроблена.

**Л. САДОУСКІ—нам. адк. рэдактара „Калгаснай праўды“**

# ЯК МЫ БУДЗЕМ ВУЧЫЦЦА Ў 1935 ГОДЗЕ



Не прыходзіцца даказваць, што для кожнага работніка бальшэвіцкага друку апрача аўладання спецыфічнымі ведамі газетнай работы неабходна яшчэ набыць шырокія палітычныя і агульнаасветныя веды, штодзённа і ўпарта працаваць над павышэннем гэтых ведаў. Без гэтага газетны работнік не здолее ўзняцца да задач бальшэвіцкай газеты.

Трэба прызнацца, што калектыўная ўнутрырэдакцыйная вучоба ў нас да гэтага года не была арганізавана, калі не лічыць рэдакцыйных нарад, якія мы часад-часу праводзім, ды абгаварэння некаторых артыкулаў, змешчаных у журналах «Районная и политотдельская печать» і «Бальшэвіцкі друк».

Але з гэтага года мы карэнным чынам перабудоўваемся ў гэтым напрамку. Мы ўжо закупілі для рэдакцыі невялікую бібліятэку палітычнай і мастацкай літаратуры. Бібліятэку гэту мы безумоўна будзем папаўняць. Звязаліся з рэдакцыяй «Крестьянской газеты», якая абяцае высылаць нам матэрыял па літаратурнай вучобе. У рэдакцыі мы арганізоўваем сістэматычную чытку і распрацоўку мастацкай літаратуры. Гэтымі днямі разбяром «Поднятую целину» Шолахава і «Дрыгву», Якуба Коласа.

Для рэдакцыі мы выпісваем шмат журналаў, асвятляючых пытанні работы друку: «Большевистская печать», «Районная и политотдельская печать», «Бальшэвіцкі друк», «Рабкресткор», «Селькор». З гэтых журналаў мы часамі абмяркоўвалі толькі некаторыя артыкулы. Як правіла, кожны работнік чытаў іх самастойна. Цяпер мы ў гэту справу ўводзім такі парадак: матэрыял кожнага нумара гэтых журналаў мы будзем абмяркоўваць на рэдакцыйных нарадах. Мы ўжо разглядалі нумары гэтых журналаў за снежань 1934 года і № 1 за 1935 г. журнала «Районная и политотдельская печать». Адначасова, як правіла, раз у тыдзень будзем праводзіць крытычнае абгаварэнне нумароў нашай газеты.

Няма чаго даказваць, што ўсё гэта будзе павышаць і палітычны, і культурны ўзровень кожнага работніка рэдакцыі.

Цяпер некалькі слоў аб сабе.

У газеце я працую з жніўня 1931 года—спачатку інструктарам, потым загадчыкам сельскагаспадарчага аддзела, а з 1 снежня 1933 года намеснікам рэдактара. Перад тым, як прыйсці на работу ў рэдакцыю, скончыў месячныя курсы газетных работнікаў пры Культпропе ЦК КП(б)Б.

Зразумела,—за такі кароткі тэрмін курсы не маглі даць грунтоўнай падрыхтоўкі. Яны далі толькі паняцце аб газетнай рабоце. Усё астатняе трэба было набываць у працэсе работы.

У пачатку было цяжка. Пішаш, пішаш, бывала што-небудзь, а як прынясеш рэдактару, ён возьме і перакрэсліць напісанае. Тут не так, кажа, тут упушчана тое і тое, там трэба так і так напісаць. Падумаеш і бачыш: сапраўды кепска напісана. Сам на сябе злуеш, як гэта я сам не мог да гэтага дадумацца. Але «дадумацца да гэтага» не так проста, дый не дадумаешся, калі не аўладаеш стылем газетнай работы—уменнем у кожным матэрыяле выдзеліць галоўнае. А вось гэтым я тады і не ўладаў.

Шмат прышлося чытаць, запазычаць вопыт работы другіх, каб адпавядаць хоць-бы ў малой ступені тым запатрабаванням, якія прад'яўляюцца да газетнага работніка. Газета «Правда», для мяне была заўсёды асноўным падручнікам, па якім я вучыўся і вучуся бальшэвіцкаму стылю афармлення матэрыялу.

Цяпер я адчуваю сябе значна вырасшым. Мае веды—і палітычныя, і агульнаасветныя—значна пашырыліся. Але я ні на мінуту не кідаю працаваць над сабой. Паміма газет я яшчэ шмат чытаю палітычнай і мастацкай літаратуры. З мастацкай літаратуры за тыдзень я пра-

чытаў «Евгений Онегин» Пушкіна, «Кому на Руси жить хорошо» Някрасава, канчаю чытаць «Избранные произведения» Маякоўскага. Прачытаўшы такую кніжку адчуваеш, як веды твае прыкметна павышаюцца, пачынаеш бачыць крыху далей, чым да гэтага, а гэта ў сваю чаргу павышае якасць работы ў газеце.

Асноўнай крыніцай, адкуль я буду ў далейшым папаўняць свае веды, з'яўляецца завочны КІЖ. З 3 па 13 студзеня я быў на канферэнцыі завочнікаў пры КІЖ'ы. Шмат дала гэта канферэнцыя. Трэба толькі дзякаваць кіраўніцтву КІЖ'а за скліканне гэтай канферэнцыі і жадаць, каб такія канферэнцыі склікаліся сістэматычна.

**Ів. ЧАРНЯЎСКІ**—адказны сакратар рэдакцыі

# Для вучобы заўсёды знаходжу час



Прымаць удзел у друку я пачаў яшчэ са школьнай лаўкі. Тады многа пісаў у раённую і цэнтральныя газеты. У 1931 годзе збылася мая даўняя мара—я пачаў працаваць у рэдакцыі «Калгаснай праўды». Першай маёй работай у газеце была літаратурная апрацоўка матэрыялу.

Сярод пэўнай часткі газетных работнікаў яшчэ і цяпер існуе погляд на літаратурную праўку, як на апошнюю па значэнню работу ў рэдакцыі. На справе-ж гэта далёка не так.

Літаратурная праўка матэрыялаў для друку ёсць адказнейшая работа, патрабуючая ад таварыша, які яе выконвае, пэўнай палітычнай, агульнаасветнай і літаратурнай граматнасці. Аб гэтым гаворыць вопыт чатырох гадоў маёй работы ў газеце.

Няправільна сцвярджэнне некаторых таварышоў і аб тым, што работа над літаратурнай апрацоўкай матэрыялаў не спрыяе вучобе і росту работніка, а наадварот затрымлівае яго.

Пра сябе я скажу, што работа літпраўшчыкам дала мне вельмі многа, галоўным чынам у сэнсе выпрацоўкі добрай газетнай мовы. Яна навучыла мяне крытычна адносіцца да матэрыялу, навучыла знаходзіць і выдзяляць важнейшае ў ім. Гэта дало мне неабходныя навыкі для работы не толькі над селькораўскім, але і над сваім матэрыялам.

Цяпер, калі я ўжо больш-менш добра ўладаю газетнай мовай, я многа працую над кожным словам заметкі, па некалькі раз перачытваю і папраўляю напісанае, што называецца, адшліфоўваю матэрыял. Я лічу, што развіць у сябе пачуццё адказнасці за кожнае надрукаванае слова—абавязак кожнага газетнага работніка.

Вось ужо другі год я працую адказным сакратаром рэдакцыі. Перш за ўсё скажу аб тым, што наогул прадстаўляе сабою сакратар ва ўмовах нашай газеты (мне здаецца, што гэта адносіцца не толькі да нашай газеты). Я, напрыклад, у асобе сакратара сумяшчаю: літаратурнага праўшчыка, карэктара, выпускаючага, і прымаю па радыё інфармацыю ТАСС—Белта. Да нядаўнага часу я яшчэ таксама вёў аддзел пісем рабочых і калгаснікаў. На маім абавязку ляжаў прагляд паступаючых карэспандэнцый, размеркаванне іх па аддзелах і т. д. Цяпер гэту работу выконвае другі таварыш. Ясна, што такая нагрузка поўнасцю пагльнае не толькі ўвесь рабочы час, але прыходзіцца праводзіць у рэдакцыі па некалькі гадзін вечарам.

Паўстае пытанне—ці магчымы рост і вучоба газетнага работніка ў такіх умовах (я, у прыватнасці, маю на ўвазе сябе)? Многія з рэдакцыйных работнікаў скардзяцца на тое, што перагружанасць работай не дае магчымасці працаваць над сабой. На сваім уласным прыкладзе я хачу абвергнуць гэта.

Мне прыходзіцца працаваць у рэдакцыі не менш 10 гадзін у суткі. Мой ра-

бочы дзень пачынаецца ў 8 гадзін раніцы ( у гэты час пачынаецца перадача інфармацый ТАСС) і канчаецца ў 9-10 гадзін вечара, калі нумар газеты ўжо ідзе на машыну. Але ўсё-ж я штодзённа выкройваю час для таго, каб прачытаць не толькі газеты, але і некаторую літаратуру.

Мяне вельмі цікавяць пытанні тэхнічнага афармлення газеты і я над гэтым шмат працую. У кожнай газеце, апрача яе зместу, маю ўвагу прыцягвае вёрстка, мастацкае яе афармленне. Па пытанню тэхнічнага афармлення газеты ў мяне ёсць таксама некаторая літаратура. Надрэнным падручнікам з'яўляецца кніга Вяземскага і Урлауба «Техническое оформление газеты», якая служыць для мяне настольнай кнігай. Ёсць у мяне і «Основы газетной корректуры» Ізюмава—таксама карысная кніжка. Рэгулярна чытаю журналы «Большевистская печать», «Районная и политотдельская печать», «Бальшэвіцкі друк», газету «Правдист». Яны даюць вялікую карысць для павышэння маёй газетнай кваліфікацыі.

Але агульны кругагор і ълоўны багаж газетнага работніка не будзе расці, калі сістэматычна не чытаць мастацкай літаратуры. Я ўвесь час сачу за навінкамі на кніжным рынку, прыкладаю ўсе намаганні, каб кожную новую мастацкую кнігу набыць і прачытаць.

Прызнаюся, што за апошнія тры месяцы мастацкай літаратуры чытаў мала: многа часу аддаў на прапрацоўку бягучых палітычных падзей, але ўсё-ж прачытаў за гэты час «Капитальный ремонт» Л. Собалева, «Скутаревского» Л. Леонава, «Похождение факира» В. Іванова, першую кнігу «Брусков» Ф. Панфёрава, прачытаў некаторыя творы Горкага і Чэхава. У лютым прачытаю наступныя кнігі: «Ведущая ось» Ільенкова, «Война» Н. Тіханава, «Петр 1-й» А. Талстога.

Па прыкладу работнікаў газеты «Гудок» мы будзем праводзіць у сябе ў рэдакцыі так званыя «літаратурныя асамблеі»—калектыўныя чыткі і глыбокі разбор мастацкіх твораў. Першую асамблею прысвячаем разбору «Поднятой целины» Шолахава, другую—разбору Коласаўскай «Дрыгвы».

У рэдакцыі ёсць радыёпрыёмнік. Асноўнае яго прызначэнне— прыём інфармацыі. Але мы паставілі радыё на службу і нашаму культурнаму адпачынку. Мы ўсе часта, сабраўшыся каля радыёпрыёмніка, слухаем оперы, драматычныя мантажы, літаратурныя перадачы. Нядаўна, напрыклад, мы праслухалі па радыё выдатную драму «Гибель эскадры» Карнійчука.

Сцяпан ДЗЕСЮКЕВІЧ—заг. сельска-гаспадарчага адд. рэдакцыі

# КІМ Я БЫЎ І КІМ СТАЎ



Калі ў 1933 годзе я пачаў працаваць у рэдакцыі «Калгаснай праўды», я падумаў: ну, тут вучыцца, працаваць над сабой не змагу. Вельмі-ж многа часу прыходзілася аддаваць афармленню матэрыялу, ды к татаму-ж я часта выязджаю на раён.

Але ўжо праз некалькі дзён работы ў рэдакцыі я адчуў, што справа якраз і ўпіраецца ў слабую маю газетную і літаратурную падрыхтаванасць. Бывала, сяджу над апрацоўкай дробнай заметкі палую гадзіну.

Трэба сказаць, што ў першы год маёй работы ў рэдакцыі сур'ёзна заняцца вучобай мне не ўдавалася. Справа ў тым, што ў рэдакцыі вельмі дрэнна планавалася работа. Прыдзеш, бывала, у рэдакцыю і не ведаеш, за што ўзяцца. Так і праходзіць палова дня, і толькі к вечару пачынаеш работу. І выходзіла, што сядзіш у рэдакцыі дзень і ноч, а толку мала і для работы над сабой часу не астаецца. У такім-жа становішчы былі і ўсе нашы работнікі.

З восені 1934 года мы работу ў рэдакцыі карэнным чынам перабудавалі, пачалі працаваць планава. Гэта далю

усім нам магчымасць пачаць тэмпамі працаваць над сабой. Я і хачу расказаць аб тым, як я працую і вучуся.

Раніцой, як толькі прыходжу ў рэдакцыю, бегла праглядаю свежыя газеты і бяруся за афармленне матэрыялу для чарговага нумара. За некалькі дзён да таго я ўжо ведаю, які матэрыял трэба рыхтаваць у даны нумар. К 5-6 гадзінам амаль штодня я ўжо вольны. Гадзіну—другую адпачываю і бяруся за вучобу.

Перш за ўсё ўважліва прачытваю газеты. Рэгулярна я чытаю «Правду», «Звязду», «Социалистическое земледелие» і маскоўскую абласную газету «За коллективизацию». Апошнія дзве газеты шмат даюць мне ў сэнсе пастаноўкі пытанняў сельскай гаспадаркі. Рэгулярна чытаю журналы «Большевистская печать», «Районная и политотдельская печать», «Бальшавіцкі друк». Таксама чытаю спецыялізаваны журнал «Лен и конопля», што для мяне асабліва неабходна, бо наш раён ільнаводчы.

У рэдакцыі мы завялі абмеркаванне асобных журнальных артыкулаў па газетнай справе. Распрацоўваем таксама агляды друку, якія друкуюцца ў «Праўдзе», «Звяздзе» і ў журналах. На нашых рэдакцыйных нарадах мы часта робім крытычныя агляды нумароў «Калгаснай праўды». За некалькі дзён да такой нарады аднаму з рэдакцыйных работнікаў даручаецца зрабіць уступнае слова. Таварыш уважліва вывучае нумары газеты за пэўны час, заўважвае недахопы, добрыя бакі і дакладвае на нарадзе. Усе работнікі рэдакцыі прымаюць удзел у крытыцы газеты. Крытыкуецца стыль матэрыялаў, граматнасць, якасць «шапак» і загалоўкаў, тэхнічнае афармленне палос, а таксама тэматыка і палітычная завостранасць матэрыялаў.

Па сабе бачу, што такія нарады вельмі многаму вучаць. Калі, бывае, на нарадзе мне ўказваюць, што такі і такі матэрыял апрацаваны мною не зусім добра, што можна было яго лепш падаць, то ўжо ў другі раз я не паўтару памылкі. З гэтага часу такія нарады мы будзем праводзіць рэгулярна.

На гэтым не канчаецца мая вучоба. Я кірую партшколай у адным сельсавеце. Кожны раз перад заняткамі прапрацоўваю тэму. Гэта асвяжае ў памяці тое, што вывучаў калісь. Але гэтага для мяне мала. З восені мінулага году я моцна ўзяўся за вывучэнне ленінізма. Набыў кнігу **«Пытанні ленінізма» Сталіна, «Ленінскую хрэстаматыю»** і некаторыя іншыя падручнікі і амаль кожны вечар дзве-тры гадзіны аддаю для іх прапрацоўкі. Зараз прапрацоўваю тэму: «Праз дыктатуру пралетарыята—да камунізма».

Выключную ўвагу аддаю чытанню мастацкай літаратуры. Не буду тут пералічваць назваў прачытаных за апошнія месяцы кніг, бо іх набярэцца многа. Адзначу яркую, цікавую і карысную кнігу Новікава-Прыбоя—**«Цусіму».**

Што дае мне мастацкая літаратура? Вельмі і вельмі многа. Кожны прачытаны твор класікаў і лепшых савецкіх пісьменнікаў узбагачае мае веды. Адчуваю, як у мяне запаўняецца пэўны прабел. Разам з тым мастацкая літаратура вельмі спрыяе паляпшэнню стылю, граматнасці і культурнасці матэрыялаў, якія я пішу для газеты.

І зараз, параўноўваючы, кім я быў, калі прышоў у рэдакцыю, і кім стаў цяпер, **я не пазнаю сябе. За два гады работы ў газеце я палітычна і культурна вырас.** У мяне таксама ёсць значныя агратэхнічныя веды. Нельга не адзначыць і таго, што за гэтыя гады я добра вывучыў большасць калгасаў, сельскую гаспадарку Лепельскага раёна. І хоць кожны месяц 10-12 дзён я бываю на раёне, гэта не перашкаджае маёй вучобе.

**М. ШЫФРЫНА**—загадчык аддзела пісем працоўных

# НЕ МЫСЛЮ ПРАЦАВАЦЬ БЕЗ ВУЧОБЫ



У рэдакцыі **«Калгаснай праўды»** працую са студзеня мінулага года. Тады я ўпершыню сустрэлася з газетнай работай. Праўда, працуючы работніцай у менскай друкарні імя Сталіна, я была актыўнай рабкоркай нашай шматтыражкі і насценгазет. Коратка раскажу пра маю работу ў рэдакцыі.

Я працую загадчыкам аддзела пісем працоўных. У мае абавязкі ўваходзіць чытка ўсёй карэспандэнцыі, якая прыбывае ў рэдакцыю, і размеркаванне яе па аддзелах. Апрача таго я сама вяду ў газеце аддзел «Кароткія сігналы», куды падбіраю пісьмы працоўных. Некаторыя пісьмы пасылаю на расследванне і сачу за рэагаваннем як на змешчаныя, так і на нязмешчаныя пісьмы.

Пісьмы працоўных мы змяшчаем у кожным нумары. Асаблівую ўвагу аддаем дзейснасці кожнага пісьма. Трэба сказаць, што ў гэтай справе мы ўжо дабіліся значных поспехаў. Гэта відаць хоць-бы з таго, што амаль у кожным нумары мы друкуем па некалькі паведамленняў аб прынятых мерах па селькораўскіх заметках. Часта работнікі рэдакцыі выязджаюць на месцы, каб расследаваць найбольш важныя пісьмы.

Некаторыя пытанні, узнятыя працоўнымі ў іх пісьмах, спецыяльна абмяркоўваліся райкомам партыі. Напрыклад, пісьмы аб дрэннай рабоце некаторых школ. Райком вынес пастанову аб злосным нерэагаванні на нашы сігналы загадчыкам раённага аддзела народнай асветы Фільмановічам і абвясціў яму вымову.

Апрача непасрэднай работы з пісьмамі я вяду вялікую перапіску з селькорамі, адказваю на іх пісьмы, паведамляю аб прынятых па заметках мерах. Агульныя пісьмы мы пасылаем селькорам рэдка, галоўным чынам вядзем перапіску з кожным селькорам асобна.

Ці вучуся я і як вучуся? Гэта пытанне спачатку толькі здзівіла мяне: **я не ўяўляю сабе газетнага работніка, які-б не вучыўся, не падымаў з кожным днём свой палітычны і культурны ўзровень.** Для мяне-ж, як маладога газетнага работніка, вучоба — гэта галоўнае.

Перш за ўсё я вучуся добрай падачы пісем працоўных на старонках газеты. Гэтаму я вучуся ў нашых цэнтральных газет, галоўным чынам у **«Праўды»**. «Праўду» я чытаю даўно, але цяпер я чытаю яе неяк інакш. Мяне цікавіць цяпер не толькі змест матэрыялаў, але і іх падача, апрацоўка. Я ўважліва вывучаю пісьмы працоўных, якія ў «Праўдзе» друкуюцца ў аддзеле «Кароткія сігналы». Я бачу, як умела «Праўда» падае пісьмы, як добра яны апрацаваны, бачу, што ў гэтых пісьмах захоўваецца стыль іх аўтараў; пісьмы па стылю адрозніваюцца адно ад аднаго, яны яркія і кароткія. Вось так падаваць пісьмы працоўных я і вучуся. Наколькі ўдала мы пераймаем вопыт «Праўды», мне самой цяжка сказаць. Але, не хвалячыся, мне здаецца, што ў «Калгаснай праўдзе» пісьмы працоўных падаюцца значна лепш, чым у радзе іншых раённых газет.

Чытаю многа літаратуры па газетнай справе, чытаю ўсе нашы кіруючыя журналы. З іх я імкнуся выкарыстаць усё, што пішацца аб пастаноўцы работы з пісьмамі ў другіх газетах.

Многа карысці даў мне журнал **«Большэвіцкі друк»**, які часта друкуе артыкулы аб рабоце з пісьмамі, асвятляе пастаноўку гэтай работы ў іншых газетах. Асабліва каштоўны артыкул быў надрукаван у № 23 аб пастаноўцы работы з пісьмамі ў рэдакцыі «Звязды». Такія артыкулы, у якіх перадаецца дадатны вопыт работы з пісьмамі, я хацела-б часцей бачыць у журнале.

Многа чытаю мастацкай літаратуры. Толькі за апошні час прачытала «Энергію» Гладкова, «Паднятую цаліну»

Шолахава, «Разбег» Стаўскага, «Дрыгву» Коласа, першую кнігу «Петр I» А. Талстога (другую кнігу чытаю зараз).

Апрача ўсяго гэтага я рэгулярна наведваю партыйную школу, сур'ёзна і глыбока прапрацоўваю кожнае заданне.

Хачу выказаць свае меркаванні аб наладжанні калектыўнай газетнай і літаратурнай вучобы ў нашай рэдакцыі. Дагэтуль такой вучобы ў нас амаль не было. Яе трэба абавязкова арганізаваць. Усе работнікі нашай рэдакцыі чытаюць многа мастацкай літаратуры. Але не кожную рэч мы можам (я мяркую па сабе) глыбока і правільна прапрацаваць, ацаніць, зрабіць патрэбныя вывады. Калектыўна абмяркоўваючы прачытаныя кнігі, мы зможам лепш разбрацца ў іх.

Таксама трэба наладзіць калектыўную вучобу па газетных дысцыплінах. Некаторыя падручнікі ў нас ёсць, дый многа друкуецца матэрыялаў у нашых спецыяльных журналах, якія патрабуюць калектыўнай паглыбленай прапрацоўкі.

I апошняе, што неабходна зрабіць, гэта наладзіць вывучэнне ўсімі работнікамі рэдакцыі друкарскай справы. Нам гэта зрабіць не цяжка — свая друкарня пад бокам. А я лічу, што кожны работнік рэдакцыі абавязкова павінен ведаць хоць-бы шрыфты і ўмець вярстаць газету.

**Р. СІМХОВІЧ.** „Комуніст“ — Бабруйск

# Першы дзень вучобы у рэдакцыі

Рабочы дзень у рэдакцыі падыходзіў к канцу. Матэрыял для чарговага нумара газеты ўжо прастылізован, прагледжан рэдактарам і здан у друкарню. Тав. **Столін** — рэдактар газеты «**Комуніст**» (Бабруйскі раён) рыхтаваўся к вечару вучобы рэдакцыйных работнікаў.

У восемнаццаць гадзін сабраліся работнікі рэдакцыі. Прышлі на запіскі і рэдактары фабрычна-заводскіх шматтыражак горада.

На вечары вучобы стаяць два пытанні: 1) аб былой контррэволюцыйнай зіноўеўскай групе; 2) работа над рабселькораўскімі дописамі.

Дзве гадзіны заняла прапрацоўка матэрыялаў аб контррэволюцыйнай зіноўеўскай групе. Вызначылі дадатковую літаратуру па гэтаму пытанню, якую абавязаны прапрацаваць усе работнікі газеты.

Сакратар рэдакцыі т. **Лынькоў** кіруе прапрацоўкай пытання аб рабоце над рабселькораўскай заметкай. Ён не абмяжоўваецца агульнымі ўстаноўкамі, ўказаннямі, а на канкрэтных фактах апрацоўкі заметак у рэдакцыі ён паказвае, як нельга працаваць над заметкай.

Вось заметка, якая апрацавана загадчыкам сельскагаспадарчага сектара т. **Магідавым** і здана ў набор:

**«У калгас імя Максіма Горкага, Осаўскага сельсовета, зацесаўся Шчэрба Іван Рыгораў. Калі пачалі засыпаць насенне і страхавыя фонды, Шчэрба парашыў ашукаць калгас. Сваё добрае насенне ён абмяняў на нейкае смяццё, прычым прынёс адну толькі грэчку».**

Аўтар-жа заметкі, калгаснік гэтага калгаса Х. Ч. пісаў аб кулацкіх дзеяннях Шчэрбы Івана, які другі раз ашуквае калгас. Шчэрба прывез здаваць не чыстую грэчку, а адно смецце. Тав. Магідаў прыгладзіў» заметку, выкінуўшы з яе асноўнае — ацэнку кулацкай дзейнасці Шчэрбы.

Тав. Лынькоў прывёў рад такіх фактаў базадказнай, неахайнай праўкі рабселькораўскіх заметак. Яго дапоўнілі і іншыя работнікі рэдакцыі.

Прыводзіцца прыклад з нумара газеты «Комуніст» ад 10 студзеня. У адной з заметак аддзела «Нам пішуць» расказваецца:

**«Парэзаў на ўласныя патрэбы калгасным цэразсядзельнікі калгаснік калгаса імя Дзержынскага, Падрэцкага сельсовета, Акушэвіч Павел Лявонаў. Аб гэтым пісалі ў насценгазеце, але праўленне мер не прыняло».**

З архіва дастаецца арыгінал гэтай заметкі, у якой селькор Л. В. пісаў так:

**«Член калгаса імя Дзержынскага, Падрэцкага сельсовета, Акушэвіч Павел**

**Лявонаў пакраў у калгасе ўсе цераседзельнікі і перазаў іх на раменьчыкі ў лапці. Конюхі выявілі гэта і напісалі ў насценгазету... а старшыня калгаса Акушэвіч Іван не прымае мер...»**

Ясна, што заметка напісана селькорам лепш, чым яе выправілі ў рэдакцыі, што пасля «літаратурнай апрацоўкі» заметка стала некапкрэтнай, палітычна незавостранай.

Разабраны былі і такія выпадкі, калі пры праўцы зусім скажаўся змест рабсельвораўскай заметкі. Прыводзіўся такі факт. У аддзеле «Сігналы з прадпрыемстваў» (загадчык аддзела т. **Гельфанд**) нядаўна была змешчана заметка пад загалоўкам: «За што прэміравалі Чэчыка». Уся яна зводзіцца да таго, што Чэчык няправільна прэміраван. Зноў звярнуліся к арыгіналу. Аказваецца, Чэчык успамінаецца ў заметцы мімаходам. Галоўнае-ж у заметцы тое, што старшыня цэхавага камітэта Кісленка прэміраваў сам сябе і сімулянта Пічухіна. Па нядбайнасці Гельфанда, Кісленка і Пічухін схаваўся за спіной Чэчыка.

Тав. Лыньксў робіць вывад: работнікі рэдакцыі безадказна адносяцца да рабселькораўскіх заметак, не працуюць над імі. Атрымае той ці іншы работнік заметку, не прачытае яе, як след, не выправіць, а адразу дыктуе змест яе машыністцы. Адсюль і скажэнні фактаў, і выпустошванне асноўнай думкі аўтара, адсюль і сухая трафарэтная мова—мова праўшчыка, а не селькора.

І ў процівагу такой безадказнай, неахайнай праўцы прыводзіцца вытрымка з успамінаў **Н. К. Крупскай** аб тым, як адносіўся да рабочых карэспандэнцый В. І. Ленін.

«Владзімір Ільіч вельмі клапатліва адносіўся да справы літаратурнай праўкі, ён вельмі клапаціўся, каб былі захаваны дух, стыль, своеасаблівасць карэспандэнцый, каб яны не абясцвечваліся, не абінтэлігенчваліся празмерна, захавалі свой твар».

***

Толькі ў 11 г. вечара скончыліся заняткі. Не гледзячы на позні час, ні адзін з 18 прысутных не кінуў заняткаў. Дзяліліся ўражаннямі, выказвалі свае думкі. Аднагалосная думка ўсіх—такія заняткі трэба праводзіць сістэматычна.

—Такія заняткі павышаюць кваліфікацыю газетных работнікаў, даюць штуршок для самастойнай работы над сабой. А да гэтага часу мы над сабой не працавалі — гаворыць інструктар газеты «Комуніст» т. **Тараканаў.** — Многія скардзяцца, што няма часу для вучобы, што часта прыходзіцца выязджаць на раён. Няправільна гэта. Я, як інструктар, таксама шмат выязджаю. І ведаю, што і ў камандыроўцы можна знайсці час, каб сёе-тое прачытаць, прапрацаваць. Але і я, і астатнія работнікі газеты не выкарыстоўваем гэты час.

—Нашы сёнешнія заняткі,—гаворыць работнік сельскагаспадарчага сектара т. **Кручкоў,** — гэта лепшы від вучобы. Яны нам вельмі многа далі. Трэба ў дадатак да гэтага ўвесці штодзенную крытыку вышаўшага нумара. Тады ў нас менш будзе такіх ляпсусаў, якія сёння прыводзіліся. Трэба, каб рэдакцыя арганізавала бібліятэку, у якой была-б неабходная літаратура, асабліва па пытаннях газетнай работы.

Першыя заняткі ў рэдакцыі «Комуніста гавораць аб тым, што такія заняткі могуць і павінны сістэматычна праводзіць усе рэдакцыі раённых газет.

## АРТЫКУЛЫ

★★★

МІХ. БЕККЕР

# ЗАМЕТКІ К З'ЕЗДУ ★★★

## РАБСЕЛЬКОРАЎ СОВЕЦКАЙ БЕЛАРУСІ

### 1. ШЫРЭЙ і ГЛЫБЕЙ ПАКАЗВАЦЬ ЖЫЦЦЁ.

Селькоры на ўсіх этапах былі і ёсць надзейнымі памочнікамі партыі і ўрада, словам і справай дапамагалі і дапамагаюць мацаваць дыктатуру пролетарыята. Тэмы селькораўскіх заметак не заўсёды былі аднолькавымі. На пэўным этапе селькоры абмяжоўваліся фактамі адмоўнага значэння. Яны выкрывалі гаспадарчыя непаладкі, бюракратызм, учынкі класавага ворага. Тым самым селькоры дапамагалі будаваць соцыялізм. Руйнуючы старое, яны зацвярджалі новае.

Зараз селькоры ўжо не могуць і не павінны абмяжоўвацца роляй выкрывальнікаў.

Па-ранейшаму селькор павінен энергічна бічаваць усё, што перашкаджае будаваць новае жыццё, узнімаць сваю класавую пільнасць, выкрываць класавага ворага, бюракрата, бяздзейніка. Але побач з гэтым селькор павінен паказваць тыя аграмадныя дасягненні, якія ёсць на кожным участку нашай работы, паказваць рост культуры і соцыялістычнага будаўніцтва.

Мы расцем надзвычай быстра. На змену «соннага поўмёртвага жыцця прышло небывалае ў свеце прабуджэнне творчай актыўнасці мільённых мас працоўных, будуючых бяскласавае соцыялістычнае грамадства». Нават пейзаж краіны, паводле слоў **М. Горкага**, «рэзка змяніўся, знікла яго ўбогая стракатасць, блакітная палоска аўса, побач з ёю чорны шматок заараной зямлі, залацістая істужка жыта, зеленаватая — пшаніцы, палаца зямлі, зарослай зеллем, — а ўсё агульным рознакалёрны смутак усеагульнага раздраблення, разарванасці. У нашы дні аграмадныя прасторы зямлі афарбаваны магутна, аднакалёрна, над сялом і пяцятовым горадам узвышаецца не царква, а аграмадныя будынкі грамадскага прызначэння».

Вёска стала непазнавальнай. Вёска прагне цягнецца да ведаў, культуры. Паводле выразу паэта Ісакоўскага «у каждой маленькой деревни» цяпер «московский кругозор».

Ці можа селькор прайсці міма тых якасна новых і своеасаблівых з'яў, якія абазначыліся ў нашай калгаснай вёсцы? Вядома, не.

Рост культуры калгаснай вёскі, аграмадны рост новых людзей прад'яўляе да селькора новыя патрабаванні і ў адносінах тэматыкі яго заметак. Ён павінен шырэй і разнастайней паказваць жыццё, якое складваецца на яго вачах. Знатныя людзі калгаса, работа сельсовета, новая жанчына, якая з'яўляецца вялікай сілай на вёсцы, калгасная заможнасць, аўладанне тэхнікай соцыялістычнага земляробства — гэта далёка не поўны пералік тэм, якія заслугоўваюць увагі селькора. Зразумела, пра ўсё гэта трэба пісаць у зусім канкрэтнай форме, унікаючы агульных выразаў і слоў. Трэба прыводзіць яркія, тыповыя прыклады, пераконваючыя чытача сваёй праўдзівасцю. Трэба дзейнічаць **паказам**, а не расказам.

### 2. СТАЦЬ ПРАПАГАНДЫСТАМ МАСТАЦКАЙ КНІГІ

Селькор — не інфарматар аб нашых дасягненнях і недахопах, ён прымае актыўны ўдзел у будаўніцтве новага жыцця, ён змагаецца за ўмацаванне свайго калгаса, за ўкараненне культуры ў быт і работу, за культурны рост калгаснікаў. І ў гэтай сваёй барацьбе селькор не можа не карыстацца совецкай літарату-

рай, як магутнай зброяй комуністычнай агітацыі.

Стаць прапагандыстам мастацкай кнігі — справа гонару кожнага селькора. Сотні селькораў, уключыўшыся ва ўсебеларускі паход за асваенне мастацкай літаратуры, выконваюць задачу аграмаднага культурна-палітычнага значэння. Калгаснікі, ніколі не трымаўшыя мастацкай кнігі, пачынаюць яе ўважліва слухаць і чытаць. Што датычыць селькораў, то, працуючы з кніжкай, яны ўзнімаюць свой культурны ўзровень і ўзбагачаюць свой палітычны багаж.

Літаратурны паход ні ў якім выпадку не з'яўляецца «кампаніяй», пасля якой цікавасць да літаратуры механічна абрываецца. Наадварот, літаратурны паход — пачатак арганізаванай і планамернай барацьбы за ўкараненне мастацкай кнігі ў масы. У паходзе за ўладанне мастацкай літаратурай нізавы калгасны друк і селькоры могуць і павінны адыграць выключна вялікую ролю. Прапаганда мастацкай кнігі праз плакаты, альбомы з водгукамі чытачоў, аб'явы, спецыяльныя нумары насценгазеты, арганізацыя гучнай чыткі з абмеркаваннем прачытанага — пачэсная задача селькораў.

Спынімся на спецыяльных нумарах насценгазеты, прысвечаных літаратурнаму паходу. У такой насценгазеце павінен быць невялічкі перадавы артыкул аб значэнні мастацкай літаратуры, аб тым творы, якому прысвячаецца гэты нумар насценгазеты.

Возьмем, як прыклад, што нумар насценгазеты прысвячаецца кнізе «Поднятая целина» Шолахава.

У цэнтры насценгазеты змяшчаюцца даныя з біяграфіі Шолахава і невялікі ўрывак з яго рамана «Поднятая целина».

Асобнае месца займаюць водгукі чытачоў аб гэтай кнізе. Гэта могуць быць водгукі ўдзельнікаў гуртка калектыўнага чытання, водгукі індывідуальных чытачоў. Яны павінны быць падаыы так, каб выклікаць у калгаснікаў зацікаўленасць да гэтай кнігі, жаданне прачытаць яе.

Далей, у насценгазеце могуць быць змешчаны выклікі на соцспаборніцтва па ўладанню мастацкай літаратурай, абавязацельствы селькораў прачытаць і распрацаваць з калгаснікамі той ці іншы літаратурны твор.

Афармляцца павінна газета добра і з густам. Партрэт пісьменніка, вокладка рэкамендуемай кнігі (нарысаваная), партрэты лепшых чытачоў, лозунгі, малюнкі — вось элементы афармлення газеты. Такія нумары насценгазет варта выпускаць перад пачаткам распрацоўкі ў гуртку кожнай новай кнігі.

Няма патрэбы гаварыць аб тым, што гэту работу павінны ўзначаліць селькоры. Выпуск насценгазет, прысвечаных асобным кнігам, збіранне і друкаванне ў раённым друку лепшых водгукаў калгаснікаў на тую ці іншую прачытаную імі кнігу — справа кожнага селькора, які хоча дапамагчы свайму калгасу, культурнаму росту калгаснікаў.

## 3. НАВУЧЫМСЯ ПРАЦАВАЦЬ НАД САБОЙ

Своечасова будзе паставіць пытанне аб павышэнні культурнага ўзроўню селькораў.

Партыя і ўрад праяўляюць выключныя клопаты аб культурным і палітычным росце рабселькораў. Але ў сваю чаргу селькоры павінны навучыцца працаваць над сабой, прад'яўляючы да сябе вялікія і сур'ёзныя патрабаванні. Селькор павінен накапляць веды, вучыцца, чытаць, калі ён не хоча адставаць ад жыцця, ад палітычнага і культурнага росту шырокіх мас калгаснікаў.

Па нашай думцы, кожны селькор павінен мець сваю бібліятэчку з палітычных і мастацкіх кніг. «Пытанні ленінізма» Сталіна, журналы «Рабоче-крестьянский корреспондент», «Бальшэвіцкі друк», гутарка Калініна з нізавымі аўтарамі (выданне «Крестьянской газеты»), артыкулы аб літаратуры Горкага, творы Горкага, Серафімовіча («Железный поток»), Шолохова, Коласа і інш. беларускіх і рускіх пралетарскіх пісьменнікаў — вось прыклады пераліку вельмі важных кніг. Зразумела, гэты пералік можа быць значна расшыран.

Будзе вельмі добра, калі, апрача штодзеннага чытання газет, чытання рабселькораўскіх журналаў, палітычных кніг, кожны селькор паставіць перад сабой задачу — прачытаць не менш аднэй мастацкай кнігі ў месяц.

Але для таго, каб зразумець мыслі пісьменніка, значнасць і прыгожасць яго твора, трэба чытаць умеючы. Гэта значыць, чытаючы, добра сабе ўяўляць, у які час, у якіх мясцах адбываюцца дзеянні, аб якіх расказана ў творы. Што прадстаўляюць сабой дзеючыя асобы? Якавы прычыны, вымушаючыя іх дзейнічаць? Як адносіцца пісьменнік да гэтых асоб? Якавы яго мыслі па поваду іх і па поваду паказаных дзеянняў? Ці правільна дана пісьменнікам ацэнка? Чым усё паказанае можа быць карысна і цікава для нас? Ці даволі праўдзіва паказана жыццё? Якімі спосабамі пісьменнік уздзейнічае на нас у гэтым мастацкім творы? Якавы яго выяўленчыя сродкі?

Для гэтага трэба чытаць не спяшаючыся, не слізгаючы па радках, а ўдумваючыся ў кожны вобраз, у кожную карціну, у кожную фразу. Гэта значыць чытаць культурна, разбірацца ў змесце, або, як кажуць, крытычна.

Вялікую дапамогу акажа селькору знаёмства з крытычнымі артыкуламі, аналізуючымі тыя ці іншыя творы. Крытыка дапаможа зразумець мастацкі твор у яго сувязі з рэчаіснасцю, выхавае мастацкі густ, дапаможа ўсвядоміць вартасці твора і яго недахопы, пакажа паслядоўна рост вывучаемага пісьменніка.

Лепшым будзе гаварыць аб той карысці, якую можа прынесці селькору літаратурны гурток. У калектыве лягчэй і быстрэй адбываецца рост. Калектыў узбагачае і дае зарадку для работы.

Было-б таму недарэчна і няправільна, калі-б селькоры стаялі ў баку ад работы ў літаратурным гуртку. Наадварот, селькоры павінны ўзяць на сябе ініцыятыву ў справе арганізацыі чытацкіх і літаратурна-творчых гурткоў, уцягваць калгаснікаў у гэтыя гурткі, асвятляць іх работу ў раённым і цэнтральным друку.

---

**Я. Х. ГЕРШОН**—намеснік загадчыка промаддзела ЦК КП(б)Б

# ГАЗЕТА ЯКОГА ПРАДПРЫЕМСТВА?

## Аб спецыфіцы фабрычна-заводскіх шматтыражак

У пачатку студзеня прамысловы аддзел ЦК КП(б)Б правёў нараду сакратароў парткомаў і інструктароў РК КП(б)Б па прамысловасці. Нарада была прысвечана пытанням перабудовы партыйнай работы. У разгортванні партыйна-масавай, палітыка-выхаваўчай работы на прадпрыемствах велізарную ролю можа і павінен адыграць фабрычна-заводскі друк.

Мы ў БССР выдаем 60 друкаваных фабрычна-заводскіх шматтыражак. Гэта выключна вострая зброя ў руках парткомаў для мабілізацыі рабочай грамадскасці вакол задач партыі.

Як-жа спраўляюцца нашы фабрычна-заводскія газеты са сваёй работай?

Галоўны недахоп фабрычна-заводскіх газет—гэта тое, што па тэматыцы яны нічым не адрозніваюцца адна ад другой. І калі-б не загаловак газеты, то іншы раз і не пазнаеш, на якім прадпрыемстве яна выходзіць.

Гэта значыць, што газеты не ўлічваюць спецыфікі кожнага прадпрыемства ў паасобку. Пішуць наогул, неканкрэтна, пішуць доўга, нецікава. Не паказваюць жывога чалавека, а калі і паказваюць, то толькі ў святочных нумарах.

ЦО нашай партыі «Праўда» штодзённа змяшчае матэрыял аб знатных людзях нашай краіны. Няўжо нельга сістэматычна змяшчаць такі матэрыял на старонках нашых фабрычна-заводскіх газет. Гэта-ж мабілізавала-б рабочых,

выкліжала-б жаданне лічэ лепш працаваць. Матэрыялу-ж аб знатных людзях можна знайсці многа на наших прадпрыемствах.

Або возьмем пісьмы рабочых у газету.

Чаму гэта пісьмы рабочых, якія павінны з'яўляцца асноўным матэрыялам фабрычна-заводскіх газет, змяшчаюцца на апошняй староцы ў спецыяльным аддзеле «пісьмы ў рэдакцыю»?

Гэта няправільна.

Пісьмы рабочых у фабрычна-заводскім друку павінны быць на самым ганаровым месцы. Па пісьмах рабочых рэдактар газеты павінен ставіць перад партыйным камітэтам рад пытанняў, якія ўзнімаюць рабочыя, вывучаць глыбока скаргі рабочых, выкрываць канкрэтных вінаватых у асобных агідпасцях і непаладках, дабівацца знішчэння гэтых агідпасцей. Газета-ж не фіксатар, а арганізатар рабочых мас.

Тав. **Кагановіч** па пісьмах рабочых у рэдакцыі праводзіць спецыяльныя пасяджэнні Маскоўскага камітэта. А нашы сакратары парткомаў часта не звяраюць увагі на пісьмы рабочых.

Работа многіх шматтыражак пушчана на самацёк, у гэтым віна парткомаў і іх сакратароў.

Як правіла фабрычна-заводскія газеты большасці прадпрыемстваў Беларусі аб рабоце партарганізацыі, аб рабоце парторгаў, тым больш прафоргаў, аб нашых партсходах і т. д. не пішуць. Ці можна пасля гэтага сказаць, што парткомы правільна выкарыстоўваюць тую вострайшую зброю, якую яны маюць у сваіх руках?

Праўда, ёсць у нас зусім нядрэнныя газеты, напрыклад **«Сцяг індустрыялізацыі»**, **«Варашылавец»**, але і гэтыя газеты не паказваюць работы партарганізацый.

Трэба прызнаць, што наш цэнтральны друк не вучыць на канкрэтных прыкладах фабрычна-заводскія газеты як трэба асвятляць партыйную работу. Для газеты **«Рабочий»** гэта тым больш недапушчальна, бо яна абавязана дапамагаць фабрычна-заводскаму друку.

Нельга абмяжоўваць ролю партаддзелаў цэнтральных газет тым, што яны раз у месяц пакажуць (іншы раз вельмі няўдала) работу парторга, парткома. Паказваць работу парторгаў неабходна, але трэба і паказваць нізавым газетам, як арганізаваць асвятленне партыйнай работы на старонках фабрычна-заводскіх газет.

Будучы ў Ленінградзе, мы бачылі, як **«Ленинградская праўда»** вывучае кожную нізавую газету. Зразумела, гэта не знімае адказнасці і з парткомаў, нават гаррайкомаў за работу газет. Было-б вельмі каштоўна, калі-б нашы гаркомы і райкомы заслухоўвалі на сваіх пасяджэннях даклады рэдактараў шматтыражак. Парткомы-ж прадпрыемстваў абавязаны сістэматычна правяраць работу сваіх газет, канкрэтна кіраваць імі.

У прамаддзеле ЦК КП(б)Б зараз устаноўлен такі парадак, што кожны інструктар павінен будзе вывучаць газеты абслугоўваемых ім прадпрыемстваў.

На прадпрыемствах Ленінграда мы бачылі, колькі ўвагі звярачаецца на афармленне газеты, на загалоўкі і «шапкі».

У нашых газетах рэдка сустрэнеш цікавы, вострыя загалоўкі. «Шапкі» і загалоўкі нашых газет сухія, шаблонныя, агульныя.

Газета завода **«Красный путиловец»** (Ленінград) дае падборку з аншлагам. «В театрах подымается занавес». Пад гэтым аншлагам змяшчаецца рэпертуар тэатраў, рэкамендуецца куды ісці, дзе ёсць месцы для ўдарнікаў і т. д.

Газета **«Кіравец»** прысвяціла спецыяльную старонку дзяўчатам. Пад аншлагам «Наши девушки» газета паказвае работу дзяўчат на заводзе, паказвае, якую работу сярод дзяўчат праводзяць заводскія арганізацыі. Або другі матэрыял у гэтай газеце: «Важный момент в жизни Василия Жвирнова», у якім узнімаецца рад пытанняў бытавога парадку і т. д.

Над афармленнем газеты, над «шапкамі» і загалоўкамі працуе не толькі рэдактар. Гэтым цікавіцца і партком, і парторгі.

Вакол фабрычна-заводскіх шматтыражак у Ленінградзе створан вялікі актыў. Да работы прыцягнуты пролетарскія пісьменнікі, інжынеры і т. д. Усе яны жывуць сваёй газетай. І не дзіва, што рабочыя з нецярплівасцю чакаюць выхаду кожнага нумара газеты. Чытаюць, крытыкуюць, пішуць свае заўвагі аб чым трэба пісаць у газеце, што іх цікавіць.

Ці маем мы магчымасць перанесці гэты вопыт работы? Безумоўна, маем. Трэба толькі, каб партыйныя камітэты ўзяліся сур'ёзна за кіраўніцтва сваімі шматтыражкамі, каб наш цэнтральны друк дапамагаў і вучыў рэдактароў фабрычна-заводскіх газет.

Парткомы і іх сакратары павінны зразумець, што без правільнай пастаноўкі работы фабрычна-заводскіх газет ім будзе выключна цяжка разгарнуць партыйна-масавую работу на прадпрыемстве.

---

Я. ЭСТЭРКІН

# ЯШЧЭ РАЗ АБ НІЗАВЫМ ДРУКУ ПРАМЫСЛОВЫХ АРЦЕЛЕЙ

У № 19 журнала «Большэвіцкі друк» (кастрычнік 1934 г.) быў змешчан матэрыял аб рабоце нізавога друку ў сістэме прамысловай кааперацыі БССР. У гэтым матэрыяле мы ўказвалі на сур'ёзнейшыя недахопы ў рабоце нізавога друку, давалі рад практычных указанняў, як палепшыць работу нізавых газет прамысловых арцелей. Нашы прапановы ў асноўным зводзіліся да арганізацыі сістэматычнай вучобы рэдактароў і членаў рэдкалегій насценгазет, разгортвання работы з рабкорамі, паляпшэння партыйнага кіраўніцтва нізавым друкам.

Пасля нашага выступлення прайшло чатыры месяцы. Ці змяніліся адносіны да нізавога друку з боку кіраўнікоў арцелей, ці палепшылася работа нізавых газет у арцелях?

Інструктар па культрабоце совета прамысловай кааперацыі БССР т. **Паўленка** аперуе лічбамі росту нізавых газет і рабкораў: да выступлення журнала ў прамысловых арцелях было 315 насценгазет і 1.302 рабкоры, зараз выходзіць 412 насценгазет, лік рабкораў вырас да 1.870.

Тав. **Паўленка** і сам не зусім упэўнен у гэтых лічбах: «бачыце, асобныя старшыні арцелей іншы раз даюць няправільныя лічбы». Але дапусцім нават, што за прайшоўшыя 4 месяцы ёсць некаторы рост насценных газет і рабкораў у прамыслова-кааператыўных арцелях. Усё-ж становішча нізавога друку і работы з рабкорамі ў сістэме прамысловай кааперацыі БССР застаецца зусім нездавальняючым.

Па-ранейшаму нездавальняючае партыйнае кіраўніцтва работай насценных газет і рабкораў. У пераважнай большасці арцелей ніякай работы з рабкорамі не праводзяць. Культработнікі арцелей не цікавяцца насценнымі газетамі, не правяраюць і не кіруюць іх работай. Вучоба рэдактароў газет і рабкораў не арганізавана.

У першым нашым выступленні (кастрычнік 1934 г.) мы на фактах работы штодзённікі арцелі «Чырвоны абутнік» паказалі, як чужыя нам людзі, выкарыстоўваючы прытупленне класавай пільнасці асобных камуністаў-кіраўнікоў арцелей, імкнуцца ўзяць у свае рукі такую вострую зброю, як насценны друк, і скарыстаць яе для сваёй класава-варожай дзейнасці. Гэтыя ўрокі не ўлічаны ў некаторых арцелях. У выніку — рад сур'ёзных палітычных памылак у некаторых насценгазетах.

У насценгазеце адной з буйнейшых прамысловых арцелей Менска **«Пролетарый»** быў змешчан артыкул аб адмене картачнай сістэмы на хлеб. У гэтым артыкуле пісалася:

> **«Адмена картачнай сістэмы якое нас гэта павінна цікавіць больш, чым іншых фабрык і заводаў, бо для нас бу-**

дзе ўсё даступней, чым гэта было раней».

Не будзем ужо гаварыць аб абсалютнай няграматнасці гэтага артыкула. Гэты артыкул, сцвярджаючы, што адмена картачнай сістэмы «павінна цікавіць» членаў арцелей больш, чым рабочых фабрык і заводаў, процістаўляючы членаў арцелей усім працоўным Савецкага Саюза, палітычна шкодны артыкул, напісаны рукамі не савецкіх людзей.

У другім артыкуле гэтай-жа газеты чытаем:

«Там (у Іспаніі. — Рэд. «Б.Д.») забастоўкі растуць і ўсільваюцца. З кожным днём пралетарыят ШЛЯХАМ ГАЛАДОЎКІ і барыкад дабіваецца асла̀банення».

(падкрэслена намі. — Рэд. «Б.Д.»).

Значыць, не буржуазія, не капіталістычная сістэма асуджае рабочых на голад, пазбаўляе іх хлеба, а рабочыя самі жадаюць галадаць, каб «шляхам галадоўкі дабіцца аслабанення» — так атрымліваецца з насценгазеты арцелі «Пролетарый».

І ніхто з кіраўнікоў арцелі не заўважыў гэтых буйнейшых памылак, ніхто не выправіў іх.

Возьмем газету арцелі імя **Крупскай**.

У арцелі імя Крупскай мелі месца выпадкі адкрытых контррэвалюцыйных выступленняў.

Напрыклад, кіраўнік фізкультуры **Каган** на адным са сходаў заявіў: «Капіталістычны свет стварае лепшыя ўмовы для развіцця фізкультуры, чым у нас». У гэтай-жа арцелі на адным з вечароў была выпушчана вусная газета. У адным з артыкулаў вуснай газеты было напісана: «Забойства тав. Кірава маса арцельшчыкаў сустрэла з вялікім энтузіязмам». Культработнік арцелі **Метр** заяўляе «што арганізацыя Біра-біджана праведзена па прынцыпах бунда». І гэтыя адкрытыя контррэвалюцыйныя выступленні не сустрэлі ніякага адпору з боку насценгазеты. Газета прайшла міма гэтай гнуснейшай контррэвалюцыйнай хлусні класава-варожых людзей, пралезшых у арцель.

У нумары гэтай-жа насценгазеты за 1-е студзеня 1935 года напісана:

«Мы маем рад арцельшчыкаў, якія лічуць уніжэннем падаваць заявы з канкрэтнымі абавязкамі аб прыёме ў ударнікі, не гледзячы на тое, што мы маем многа работнікаў дастойных быць ударнікамі».

Справа не ў тым, што ў арцелі ёсць шмат людзей, якія працуюць сапраўды па-ўдарнаму, але не лічацца ўдарнікамі. Справа ў тым, што ў арцелі ёсць людзі, якія выступаюць супроць ударніцтва, якія лічаць уніжэннем для сябе быць у радах ударнікаў. Носьбітамі гэтых настрояў з'яўляюцца класава-варожыя элементы, якія прабраліся ў арцель. Газета не выкрыла гэтых людзей, не выкрыла іх класава-варожы твар перад усімі членамі арцелі. Газета ўгаварвае гэтых людзей «падаць заявы аб прыёме ва ўдарнікі».

Ці не ясна, што насценгазета арцелі імя Крупскай робіцца не нашымі людзьмі, што гэта газета з'яўляецца рупарам класавага ворага.

Такіх фактаў нямала і ў некаторых іншых арцелях. Гэта вынік адсутнасці партыйнага кіраўніцтва нізавым друкам прамыслова - кааперацыйных арцелей, вынік адсутнасці праверкі людзей, якім даручаецца такая адказнейшая работа, як рэдагаванне насценнай газеты.

Аб вытворчым жыцці арцелі, аб выкананні планаў, аб ударніках, аб грамадскай рабоце вы ў гэтых газетах знойдзеце вельмі мала. Арцельшчыкі-ўдарнікі ў насценгазеты не пішуць. Газеты запаўняюцца выключна матэрыяламі рэдкалегій і саміх рэдактароў, рознымі дробнымі, непрынцыповымі заметкамі.

Аб тым, як працуюць насценгазеты арцелей, расказваюць самі рэдактары і члены рэдкалегій:

Тав. **Мельцэр** з арцелі «Пролетарый» расказвае: «Ніякай арганізацыйнай работы рэдкалегія не праводзіць. Хто захоча, той і выпускае газету. Культработнік насценгазетай не цікавіцца. Па нашай газеце нельга пазнаць, чым жыве арцель. Нядаўна склікалі ў нас злёт рабкораў за чашкай чаю. Але злёт нічога не даў».

Таварыш **Опман** з арцелі «Новы шлях» гаворыць: «Ніхто не цікавіцца арганізацыяй работы рэдкалегій. Кожная рэдкалегія працуе як уздумае».

Тав. **Крашчанка** — рэдактар насценгазеты арцелі «Новы шлях» — скардзіцца: «Я працую рэдактарам першы

раз, ніякіх указанняў не атрымліваю, культработнікі намі не цікавяцца. Гаварылі аб арганізацыі вучобы, але гэта засталося толькі разгаворам».

Аб адсутнасці ўсякай работы з рэдактарамі і членамі рэдкалегій насценгазет гаварылі і тт. **Гутман, Гольдзнберґ, Гофман** і інш.

Культаддзел совета прамысловай каапераціі БССР пасля артыкула ў «Большэвіцкім друку» абвясціў конкурс на лепшую насценгазету, арганізаваў выстаўку насценных газет, правёў некалькі нарад рэдактароў газет, але канкрэтнага, штодзённага кіраўніцтва і дапамогі нізавому друку арцелей няма і да гэтага часу.

Партыйная арганізацыя прамысловай кааперацыі абавязана забяспечыць гэтае кіраўніцтва.

Мы яшчэ раз ставім пытанне перад кіраўніцтвам прамысловай кааперацыі **аб выдзяленні спецыяльнага работніка па кіраўніцтву нізавым друкам,** аб адказнасці культработнікаў арцелей за работу сваіх насценгазет і рабкораў.

З 15 студзеня па 15-е лютага праводзяцца перавыбары рэдкалегій насценгазет. Гэтыя перавыбары партыйная арганізацыя Белпромкаапсовета павінна скарыстаць для дэтальнай праверкі работы нізавога друку. Трэба праверыць кожнага члена рэдкалегіі, падабраць у склад рэдкалегій (асабліва рэдактараў газет) правераных на рабоце, палітычна-граматных людзей з лепшых ударнікаў.

Трэба, каб комуністы—работнікі арцелей узялі работу нізавога друку ў свае рукі, забяспечылі штодзённае канкрэтнае кіраўніцтва гэтай работай.

Забяспечыць ператварэнне нізавых газет промарцелей у сапраўдную зброю партыі ў барацьбе за выкананне задач, якія стаяць перад саматужна-прамысловай кааперацыяй, за соцыялістычнае перавыхаванне шырокіх мас членаў арцелей — пад гэтым лозунгам трэба правесці перавыбары рэдкалегій насценгазет у арцелях.

**НА ПРАДПРЫЕМСТВАХ ВІЦЕБСКА**



За фармоўкай (завод «Комінтэрн», Віцебск).



У швейна-кецельным цэху фабрыкі «КІМ» (Віцебск).

## ДРУК У ПАДРЫХТОЎЦЫ К СЯЎБЕ

★ ★ ★

# Па прынцыпу—абы запоўніць месца

У лістападзе і снежні мінулага года ушацкая раённая газета **«Прымежны калгаснік»** не займалася падрыхтоўкай да веснавой сяўбы, калі не лічыць двух падборак, змешчаных у апошніх нумарах газеты за снежань.

Затое зараз «Прымежны калгаснік» дае падборкі аб падрыхтоўцы да веснавой сяўбы амаль у кожным нумары.

Але не колькасцю матэрыялаў, не вялізнымі артыкуламі, паласамі вымяраецца барацьба газет за паспяховую падрыхтоўку да веснавой сяўбы, а **высокай якасцю, палітычнай завостранасцю** змешчаных матэрыялаў, своечасовай і сістэматычнай падачай іх.

Гэтага не разумее рэдакцыя ушацкай раённай газеты. Усе змешчаныя ёю матэрыялы падобны адзін да аднаго, паверхоўныя, неканкрэтныя, малаграматныя, не мабілізуючыя масы на падрыхтоўку да веснавой сяўбы.

Возьмем нумар газеты за 5 студзеня. Уся першая паласа прысвечана падрыхтоўцы да веснавой сяўбы. І ўвесь матэрыял, змешчаны на гэтай паласе, пачынаючы з «шапкі», перадавога артыкула і канчаючы асобнымі заметкамі, паказвае ўзор бязграматнасці, узор таго, як не трэба газеце асвятляць падрыхтоўку да сяўбы.

Над паласой змешчана «шапка»: «З сёнешняга дня забяспечыць баявую сустрэчу вясне». Мы ўпэўнены, што рад калгасаў не чакалі, пакуль «Прымежны калгаснік» заклікча рыхтавацца да веснавой сяўбы і ўжо зараз поўнасцю гатовы да яе. Не з 5-га студзеня трэба было заклікаць рыхтаваць «баявую сустрэчу вясне», а яшчэ з восені.

К 5 студзеня, тав. **Хрысцініч** (рэдактар «П. К.»), трэба было поўнасцю засыпаць насенныя фонды, а па Ушацкаму раёну і на 20 студзеня план засыпкі насення яшчэ недавыканан на 7 проц., прычым насення ільну асталося засыпаць звыш 20 проц. І такое становішча з засыпкай насення ільну ў ільнаводчым раёне! Ні ў адной заметцы не ўпамінаецца аб задачах падрыхтоўкі высокага ўраджаю тэхнічных культур. Газета гаворыць аб усім «наогул».

«Наогул» напісан і перадавы артыкул у памянёнай паласе «Да вясны рыхтавацца неадкладна».

Няма ў артыкуле ні слова аб тым, чаму ў раёне нездавальняюча праходзіць падрыхтоўка да веснавой сяўбы, чаму не скончана засыпка насенных і страхавых фондаў. Нават ні адной лічбы, характарызуючай становішча падрыхтоўкі да сяўбы не прыведзена, ні адзін канкрэтны вінаваты з раённых работнікаў не паказан. Словам, не сказана нічога, што трэба было сказаць у перадавым артыкуле.

Такой-жа мовай напісан і перадавы артыкул у нумары за 19 студзеня — «Добраякаснае насенне рыхтаваць вясне».

Не ўмеючы, ці не жадаючы глыбока ўскрыць прычыны дрэннай падрыхтоўкі раёна да сяўбы, не паказаўшы таго, як трэба праводзіць гэту работу, «Прымежны калгаснік» перайшоў да грубай лаянкі, не ўласцівай бальшэвіцкай газеце. Так, у заметцы «Прывесці ў поўную гатоўнасць інвентар» успамінаецца аб старшыні калгаса «Чырвонае Баброва», які

> **«Пасля заканчэння астатніх сельгас работ парашыў адпачываць не паўрах»**

і які па словах газеты, разважае так:

> **«Які дурань зараз рыхтуецца да вясны...**
>
> **Вось размовы вырадка Ліцвіна»** —

заключае газета.

Нават калі і былі такія разважанні ў старшыні калгаса «Чырвонае Баброва» т. Ліцвіна, то і ў гэтым выпадку газета не мае права лаяць яго базарнымі словамі, называць «вырадкам». Сама-ж газета піша, што калгас скон-

чыў усё «астатнія работы», азначыць калгас, якім кіруе т. Ліцвін, не з адстаючых. Ці так трэба выхоўваць старшынь калгасаў?

Не грубая лаянка, а глыбокі паказ вопыта перадавікоў, глыбокае ўскрыццё прычын дрэннай падрыхтоўкі да сяўбы ў тым ці іншым калгасе, соўгасе, у раёне — вось што патрэбна. А гэтага і не робіць «Прымежны калгаснік».

Разгледзім заметку «Не марудзіць з падрыхтоўкай». У пачатку яе гаворыцца аб калгасе «Праўда», які засыпаў насенне, прыступіў да рамонту інвентару і т.д. Пасля пералічэння што зроблена следуе вывад:

«Гэта гаворыць аб умелым кіраўніцтве калгасам з боку старшыні т. Каваленкі».

Калі-б газета паказала, як расстаўлены сілы ў калгасе, як арганізавана работа ў брыгадах, тады-б было відаць, чаму добра праходзіць падрыхтоўка да веснавой сяўбы ў калгасе. Але газета гэтага не робіць, не перадае вопыт работы калгаса, а толькі гола (і то няпоўна) фіксуе, што робіцца ў калгасе.

У гэтай-жа заметцы «паказваецца» калгас, які дрэнна рыхтуецца да веснавой сяўбы. Прыводзім вытрымку поўнасцю:

«У калгасе «Сіла» адваротнае. Калгаснікі і не думаюць прыступаць да рамонта інвентара і засыпкі фондаў. Нават не закончана малацьба. А гэта ў сваю чаргу сведчыць аб поўнай бяздзейнасці Арла, як старшыні калгаса».

Вось і ўсё. У калгасе «Праўда» добра рыхтуюцца да веснавой сяўбы, а ў калгасе «Сіла» дрэнна рыхтуюцца.

А па сутнасці не паказана, чаму ідзе ўперадзе калгас «Праўда» і чаму адстае калгас «Сіла».

Шаблон, штамп, праца па метаду — абы запоўніць месца ў газеце — такі стыль работы рэдакцыі «Прымежны калгаснік».

«Разам з дасягненнямі ёсць і недахопы» — вось узорык гэтага шаблону. А газета піша так не толькі ў тэксце, а нават загалоўкі такія дае. Ці трэба пасля гэтага гаварыць аб тым, што ў рэдакцыі ушацкай газеты зусім не думаюць над тым, што даюць чытачу.

На 25 студзеня ушацкая МТС выканала план рамонту трактароў на 57 проц. Замест таго, каб ускрыць прычыны марудкага ходу рамонту трактароў, паказаць, як працуе МТС і МТМ, у газеце змяшчаецца заметка «Вынікі гатоўнасці МТС да вясны», у якой паведамляецца, што

«Такое адставанне ў рамонце тлумачыцца несвоечасовым атрыманнем матораў з лепельскай машына-трактарнай мейстэрні».

Па чыёй віне несвоечасова атрымліваюцца маторы — аб гэтым «Прымежны калгаснік» не дае ні слова і, прытрымліваючыся свайго метада падачы матэрыялу, піша далей:

«Але ёсць і добрыя вынікі работы рэмонтнай мейстэрні».

Не паказаўшы канкрэтных вінаватых і сапраўдных прычын марудкага рамонту трактароў, газета дала повад кіраўніцтву МТС спасылацца на аб'ектыўныя прычыны, на адсутнасць матораў і т.д.

Мы спыніліся так доўга на адной паласе таму, што яна характэрна, што так падаюцца ўсе падборкі.

«Прымежны калгаснік» павінен зразумець, што матэрыял у газеце змяшчаецца не для таго, каб толькі запоўніць месца, а для таго, каб мабілізаваць масы на скарэйшую і лепшую падрыхтоўку да веснавой сяўбы.

Карэнным чынам палепшыць якасць падаваемага матэрыялу, арганізаваць шырокую праверку становішча з падрыхтоўкай да веснавой сяўбы ў раёне (рэйд брыгад друку, рабселькораўскія пасты і г. д.), асабліва па тэхнічных культурах, арганізаваць новую хвалю соцыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва калгасаў, сельсоветаў на лепшую падрыхтоўку да веснавой сяўбы— вось неадкладныя задачы «Прымежнага калгасніка».

# Вясну сустрэнем з моцным канем

Падрыхтоўку да веснавой сяўбы **«Большэвік Барысаўшчыны»** распачаў з барацьбы за моцнага калгаснага каня.

Пачалі мы з таго, што яшчэ ў пачатку снежня мінулага года арганізавалі і змясцілі ў газеце пісьмо конюхаў калгаса **«Маяк соцыялізма»**.

У гэтым пісьме конюхі перадалі вопыт сваёй работы і высунулі прапанову абвясціць раённы конкурс-спаборніцтва на лепшую падрыхтоўку каня да вясны.

Заклік калгаса «Маяк соцыялізма» быў адобран райвыканкомам, які вынес спецыяльную пастанову, каб сельсоветы навакол гэтага закліку правялі масавую работу.

Так пачалося спаборніцтва калгасных конюхаў на лепшую падрыхтоўку каня да вясны.

25 снежня рэдакцыя сумесна з райза склікала раённы злёт старшых калгасных конюхаў, на які з'явілася 147 чалавек. Да злёта «Большэвік Барысаўшчыны» правёў вялікую работу вакол конкурса-спаборніцтва. Было змешчана па гэтаму пытанню некалькі перадавых артыкулаў, падборак, цэлыя старонкі, заклікаючыя разгарнуць шырокае спаборніцтва па лепшы догляд каня.

> **«Шырэй разгарнуць спаборніцтва конюхаў, працаваць усё лепш і лепш, большэвіцкую вясну сустрэць з высокаўпітанымі коньмі»**

— заклікае «Большэвік Барысаўшчыны» ў перадавым артыкуле «Да раённага злёта старшых калгасных конюхаў.

Праводзячы вялікую масавую работу вакол захавання каня і лепшай падрыхтоўкі яго да веснавой сяўбы, мы адначасова дабіліся значнага паляпшэння рэагавання арганізацый і ўстаноў на змяшчаемыя намі і пасланыя на расследванне матэрыялы. Па нашай карэспандэнцыі аб тым, што ў калгасе «Ўсход соцыялізма» звергла 7 конематак, змешчанай 24 снежня пад загалоўкам «Чаму абарціравалі конематкі», ужо 27 снежня выносіцца пастанова РК КП(б)Б і РВК аб зняцці старшыні калгаса **Чарняка** з работы і аддачы пад суд.

З 7 студзеня «Большэвіком Барысаўшчыны», райкомам ЛКСМБ і райза праводзіцца **рэйд праверкі выканання ўмоў конкурса-спаборніцтва па падрыхтоўцы каня да вясны.** Для гэтай мэты многія работнікі выязджалі ў калгасы.

Зараз ужо можна падвесці першыя вынікі гэтага рэйда-праверкі, які праводзіўся ва ўсіх калгасах раёна. Вынікі гэтыя гавораць аб тым, што ў большасці калгасаў сапраўды змагаюцца за першынства ў конкурсе-спаборніцтве па лепшую падрыхтоўку да пасеўнай, за высокаўпітанага і працаздольнага каня. Такавы калгасы «Чырвоны востраў» Хаўхоліцкага сельсовета, «З рашаючы», В.-Негнаўскага сельсовета і інш.

Такавы некаторыя вынікі нашай барацьбы за здаровага калгаснага каня.

**ГР. КУГЕЛЬ.**

**Загадчык аддзела жывёлагадоўлі рэдакцыі газеты «Большэвік Барысаўшчыны».**

## ПРАВЯРАЕМ РАБОТУ ФАБРЫЧНА-ЗАВОДСКАГА ДРУКУ

# БЯСПЛАНАВАСЦЬ, НЕАРГАНІЗАВАНАСЦЬ

Аб рабоце шматтыражкі **«За ўдарныя тэмпы»** (Бабруйскі дрэваапрацоўчы камбінат) мы пісалі ў 9 нумары нашага журнала (май 1934 г.). За гэты час рэдакцыя шматтыражкі разгарнула надрэнна вучобу сярод рэдактароў і членаў рэдкалегій нізавых газет.

У кастрычніку былі праведзены курсы рэдактароў і членаў рэдкалегій. На працягу 15 дзён праз гэтыя курсы прапушчаны 74 чалавекі. У снежні былі арганізаваны пяцідзённыя курсы на 45 чалавек.

Перад пачаткам заняткаў з курсантамі праводзіліся спецыяльныя гутаркі аб значэнні курсаў. Кожны курсант атрымаў білятэчку рэдактара нізавой газеты.

У цэхах пачалі выходзіць насценгазеты-штодзенкі. На старонках шматтыражкі можна ўжо знайсці і агляды (праўда, якасць гэтых аглядаў яшчэ нізкая) нізавых газет, аб рабоце паасобных рэдактароў штодзенак і парткіраўніцтве імі.

Але газета не ўлічыла ўказанняў журнала аб рабоце з рабкорамі, аб планаванні работы шматтыражкі. Работа з рабкорамі, работа з пісьмамі рабочых у рэдакцыю на камбінаце пастаўлена надзвычай дрэнна.

Перад намі кніга ўліку рабкораўскіх пісем за 1934 год. Да верасня мінулага года зарэгістравана 300 рабкораўскіх карэспандэнцый (з верасня чамусці гэтага ўліку няма).

**Як-жа выкарыстоўваюцца рабкораўскія пісьмы?** Мы ўзялі на выбарку 14 зарэгістраваных пісем рабкораў за верасень. З іх толькі 4 значацца выкарыстанымі ў газеце, адно пісьмо паслана на расследванне парторгу. Што зроблена з астатнімі—невядома. Знайсці гэтыя пісьмы немагчыма, бо архіва заметак у рэдакцыі фактычна няма. Возьмем другі нумар газеты за студзень 1935 года. У ім змешчана 9 заметак па пытаннях разгорнутага гандлю хлебам, барацьбы з класава-варожымі элементамі, якія прабраліся на камбінат, і аб рэалізацыі білетаў латарэі Асоавіяхіма. Падпісаны заметкі Грынбергам, Фельдманам, Давідовічам, Мілячэнка, Шац, Грынштэйнам і інш. Здаецца, нямала аўтараў для аднаго нумара газеты. Але, на вялікі жаль, за чужымі подпісамі захаваліся самі работнікі рэдакцыі. Мы дарэмна імкнуліся знайсці хоць адзін арыгінал заметкі гэтага нумара (а ён вышаў толькі 3—4 дні таму назад). Арыгіналаў гэтых у рэдакцыі няма.



Рабкор-ударнік бабруйскага дрэваапрацоўчага камбіната тав. Чапковіч. Прымаў актыўны удзел у канферэнцыі чытачоў газеты «За ўдарныя тэмпы».

Метад арганізацыі такіх «рабкораўскіх» заметак зусім «просты». Работнік рэдакцыі заходзіць у цэх, паслухае, аб чым гавораць рабочыя, і заметка гатова. Яна падпісваецца прозві-

пісам раскачыка. Возьмем № 51 ад 10 снежня. Там была змешчана заметка «звышчасовыя работы на біржы ўвайшлі ў сістэму» за подпісам «брыгада грузчыкаў». Брыгаду грузчыкаў здзівіла гэта заметка, бо яны аб гэтым у газету не пісалі, а гаварылі пра звышчасовыя работы з старшынёй цэхавага камітэта тав. **Домаравым.** Домараў расказаў аб гэтым работніку рэдакцыі. На аснове гутаркі з т. Домаравым работнік рэдакцыі напісаў заметку і падпісаў яе «брыгада грузчыкаў». Такіх «рабкораўскіх» заметак у шматтыражцы многа.

Ці так трэба арганізоўваць матэрыял у газету? Матэрыял трэба арганізоўваць шляхам давядзення да рабочых і рабкораў плана газеты, падрабязнай прапрацоўкі з імі паасобных пытанняў плана, уцягнення рабочых у рэйдавыя брыгады і т. д.

Масавасць газеты не заключаецца ў тым, што работнік рэдакцыі пад кожнай напісанай ім заметкай («інтэрв'ю» з рабочымі) падпіша другое прозвішча. Гэта апашляе прынцыпы работы бальшэвіцкага друку.

Арганізацыя працы ў рэдакцыі пастаўлена надзвычай дрэнна. Работнікі рэдакцыі—фактычна інструктары фабрычна-заводскага комсамольскага камітэта і другіх арганізацый. У рэдакцыі тры работнікі: рэдактар т. Лунін—ён-жа старшыня Азет і прапагандыст у школе фабрычна-заводскага вучнёўства; намеснік рэдактара т. Грынштэйн—ён-жа старшыня шэфтаварыства камбіната і прапагандыст палітшколы; інструктар-масавік тав. Розенберг—ён-жа член камітэта ЛКСМ.

Па словах т. Луніна, работу ўнутры рэдакцыі яны размеркавалі так: Грынштэйн вядзе ў газеце пытанні прамысловасці, шэфства над калгасамі, кааперацыі, прыгараднай гаспадаркі, фінплана і ЗОТ; Розенберг—пытанні работы комсамола, профсаюзаў, грамадскіх арганізацый, кааперацыі і прамысловасці; Лунін—партбудаўніцтва, вучоба, складае план газеты і піша перадавыя. За масавую работу з рабкорамі і чытачамі адказваюць усе, за ўлік рабкораўскіх заметак і рэагаванне адказваюць таксама ўсе і ніхто.

Рэдактар заяўляе, што за гэту работу адказвае Розенберг, Розенберг - жа сцвярджае, што ніхто яму аб гэтым ніколі не гаварыў. У выніку дзесяткі рабкораўскіх заметак астаюцца без рэагавання, без усякай увагі з боку рэдакцыі.

Тав. Розенберг новы работнік у рэдакцыі. Працуе ён з верасня 1934 года інструктарам-масавіком. Аб сваёй рабоце ён расказвае:

— Плана арганізацыйна-масавай работы ў нашай рэдакцыі няма. Сам я працую ўвесь час па заданню рэдактара. А заданні мае такія: У трэці нумар газеты я павінен быў падрыхтаваць 350 радкоў па пытаннях комсамольскай палітвучобы, латарэі Асоавіяхіма і зотаўскаму паходу. Заданне атрымаў 2 студзеня. Матэрыял-жа павінен быў здаць 7-га. Прычым рэдактар т. Лунін мне не растлумачыў, як арганізаваць матэрыял і на што звярнуць галоўную ўвагу ў гэтых пытаннях. Я выканаў даручаную мне работу так, як сам разумеў.

Розенберг выконвае асобныя заданні рэдактара па падрыхтоўцы матэрыялаў для чарговага нумара. Сваёй-жа асноўнай работы, як інструктара-масавіка, не праводзіць.

**Асноўная работа інструктара-масавіка—арганізацыйна-масавая работа з рабкорамі і рэдкалегіямі насценгазет.** Ён павінен арганізоўваць рабкораў вакол газет, расказваць ім аб важнейшых рашэннях партыі, аб пытаннях, якія будуць асвятляцца на старонках газеты, знаёміць іх з планам работы рэдакцыі. Інструктар-масавік павінен вучыць рабкораў, аб чым і як пісаць у газету. Ён павінен звязаць газету з масамі, інструктаваць рэдкалегіі нізавых газет. Гэтага т. Розенберг не робіць. Фактычна ён не інструктар-масавік, а рэпарцёр камбінацкай газеты. Рэдактар газеты патрабуе ад яго іменна рэпарцёрскай, а не арганізацыйна-масавай работы.

Пасля гэтага зусім не дзіўна, што ў адным нумары газеты «За ўдарныя тэмпы» можна знайсці 5—8 заметак Розенберга. З рабкорамі-ж рэдакцыя амаль не працуе.

Не лепшая справа і з планам работы рэдакцыі.

— Мы складаем план кожнага асобнага нумара, бывае, што і на два нумары адразу— заяўляе т. Лунін.

— Праз два дні выходзіць наша газета, які план гэтага нумара?

— Мы здалі матэрыял па зотаўскаму паходу, пра ўдарнікаў—і т. Лунін пералічвае тыя артыкулы і заметкі, што ўжо зданы ў набор.

— А дзе план папярэдняга нумара?

— Планаў газет мы не захоўваем. я іх ведаю напамяць.

Лунін бярэ архіў выпушчаных нумароў газеты за студзень, перагортвае старонкі камплекта, чытае, што змешчана ў газеце і гаворыць— «гэта і быў план нашых нумароў газеты».

Адсутнасць плана работы, правільнай расстаноўкі і арганізацыі сіл унутры рэдакцыі прывяла да таго, што работнікі рэдакцыі цэлыя дні трацяць без усякай карысці, не вядуць ніякай работы з рабкорамі.

Возьмем 5 студзеня. Рабочы дзень у рэдакцыі афіцыяльна пачынаецца з 10 гадзін. Але ў 10 гадзін у рэдакцыі яшчэ нікога няма. Лунін у гэты дзень па заданню парткома і завкома вёў падрыхтоўчую работу да дня ўдарніка. Арганізоўваў маляванне лозунгаў (па камбінаце звыш 10 чалавек клубных работнікаў), прымаў удзел у рабоце камісіі па прэміраванню лепшых ударнікаў. І толькі адну гадзіну патраціў на друкаванне матэрыялаў у шматтыражку. З рабкорамі ніякай работы не праводзіў.

Другі работнік рэдакцыі Грынштэйн таксама ўвесь дзень быў заняты арганізацыяй вечара ўдарніка (абсталяваннем, упрыгожваннем памяшкання і т. д.) і прыблізна гадзіну страціў на друкаванне матэрыялу для газеты. Толькі адзін Розенберг у гэты дзень займаўся апрацоўкай матэрыялаў для чарговага нумара. У іншыя дні і ён заняты выкананнем даручэнняў камітэта комсамола.

Мы ўзялі адзін дзень работы рэдакцыі, але такіх рабочых дзён многа. Мы не супроць таго, каб работнікі рэдакцыі прымалі ўдзел у рабоце грамадскіх арганізацый. Але-ж трэба так арганізаваць свой рабочы дзень, каб у першую чаргу была забяспечана работа газеты, каб не адсоўвалася на задні план работа з рабкорамі.

У рэдакцыі «За ўдарныя тэмпы» тры работнікі. Кожны з іх павінен адказваць за пэўны ўчастак работы. Кожны з работнікаў павінен сістэматычна весці работу з рабкорамі і праз іх арганізоўваць матэрыял у газету. Для гэтага трэба мець цвёрды план аператыўна-масавай работы. Тады работнікі газеты не будуць мітусіцца, а газета стане масавай, аператыўнай, задаволіць узросшыя патрабаванні сваіх чытачоў.

# ГАВОРАЦЬ ЧЫТАЧЫ

## НЕ ЎМЕЕ НАША ГАЗЕТА ПАКАЗВАЦЬ ЛЕПШЫХ ЛЮДЗЕЙ

**Тав. Чапковіч—профарганізатар лесацэха**

Газета **«За ўдарныя тэмпы»** часта не задавольвае нас сваім зместам. Яна змяшчае вялікія і агульныя артыкулы.

— Бярыце прыклад з перадавых — заклікае газета, а вось чаму вучыцца —газета і не паказвае, не ўскрывае «сакрэту» перамог лепшых ударнікаў. Усе мы чыталі пра лепшага чалавека камбіната ізотаўца **Гладышава.** Газета заклікала вучыцца працаваць у яго. А вось паспрабуйце вы ў артыкуле пра т. Гладышава знайсці хоць крупінку вопыта яго работы—не знойдзеце. Газета паказвае толькі лічбы выканання т. Гладышавым плана. Рамонтнікі, прачытаўшы шматтыражку, пытаюць у мяне: як Гладышаў дасягнуў такіх перамог? А якраз аб гэтым газета не сказала ні слова. Нудна чытаць такі «паказ» перадавога рабочага.

Перад адкрыццём гэтай канферэнцыі ў нас у цэху праводзіўся сход. Гаварылі мы аб газеце. Падыходзіць да мяне тачыльшчык тав. Лукаш і гаворыць.

— Я даў-бы добры матэрыял у газету. калі-б да мяне хоць раз заглянулі работнікі рэдакцыі.

Рэдакцыя слаба працуе з рабкорамі, слаба прыцягвае рабочых да ўдзелу ў газеце. Хто піша ў шматтыражку? У асноўным рэдактары насценных газет. Трэба сказаць, што з рэдактарамі штодзённак шматтыражка працуе няндрэнна. Але-ж трэба працаваць і з рабкорамі,

рабочымі чытачамі, уцягнуць і іх у работу газеты.

Хачу сказаць наконт агляду нізавых газет. Я пачытаў агляд друку ў журнале **«Рабкресткор»** і агляд друку ў нашай шматтыражцы. Паміж імі вялікая розніца. Агляд нізавой газеты ў «Рабкресткоре» канкрэтна вучыць, як расставіць свае сілы, як арганізаваць матэрыял, афармляць газету, аб чым і як трэба пісаць. А наш агляд у газеце пішацца прыблізна так: «Газета б'ецца за выкананне плана..- Брыгада дабілася выканання вытворчага плана... І адзін толькі недахоп газеты—тое, што яна нерэгулярна выходзіць». Рэдактара і рабкора такі агляд нічому не навучыць. А рэдактароў нашых нізавых газет яшчэ трэба вучыць і вучыць.

## СТАЦЬ АКТЫЎНЫМ БАРАЦЬБІТОМ ЗА АЎЛАДАННЕ ТЭХНІКАЙ

**Тав. Свярдлінскі—член ІТС лесакамбіната**

У нашай газеце «За ўдарныя тэмпы» можна часта сустрэць заметкі аб тэхнічнай вучобе. Усе яны асвятляюць наведванне гурткоў тэхнічнай вучобы, работу гэтых гурткоў. Затое амаль не знойдзеш у газеце артыкулаў вучэбна-тэхнічнага характару. А задачы-ж нашай шматтыражкі заключаюцца не ў тым, каб фіксаваць, дзе і як праходзяць заняткі гурткоў тэхнічнай вучобы. Трэба больш глыбока прапагандаваць аўладанне тэхнікай. Гэта значыць, што наша газета павінна друкаваць рад матэрыялаў, якія-б дапамаглі рабочаму аўладаць тэхнікай сваёй вытворчасці, якія-б паглыбілі яго практычныя веды.

На нашым камбінаце ёсць шмат зо-таўцаў, інжынерна-тэхнічных работнікаў. А вось тэхнічнай старонкі ў газеце рэдакцыя чамусці не змагла арганізаваць. Гэту хібу трэба агульнымі сіламі ліквідаваць. Да ўдзелу ў газеце трэба і можна прыцягнуць лепшыя інжынерна-тэхнічныя сілы камбіната.

Да недахопаў у рабоце газеты я хачу аднесці яшчэ і тое, што матэрыял падаецца надзвычайна раскідана, не канцэнтруецца ўвага вакол асноўных задач. Дрэнна пастаўлена і рэагаванне. Я праглядзеў камплект газеты «За ўдарныя тэмпы» за апошнія два месяцы. У гэтых нумарах цэлая серыя заметак, на якія яшчэ ніхто не рэагаваў. Гэта выклікае ўпушчэнне. Мы хочам у сваёй газеце чытаць і аб тым, што зроблена на сігналах шматтыражкі. І гэта жаданне чытачоў рэдакцыя павінна задаволіць.

## ЧУЛА АДНОСІЦЦА ДА КОЖНАГА ПІСЬМА

**Тав. Баранаў—рабкор пажарна-вартавой аховы камбіната.**

— Некаторыя таварышы лічаць, што каб палепшыць змест шматтыражкі, трэба навялічыць яе фармат.

Не ў фармаце справа. Усё залежыць ад таго, як арганізоўваецца і афармляецца матэрыял газеты, як працуе рэдакцыя з рабкорамі. Ад работы з рабкорамі і ўвагі да іх матэрыялаў залежыць якасць матэрыялаў, глыбіня ўзнятага ў газеце пытання.

Я сам некалькі раз пісаў у шматтыражку, але чамусці мае заметкі не былі змешчаны, нават вуснага адказу ад рэдакцыі я не атрымаў. Да гэтага часу мне невядома, чаму не былі выкарыстаны мае заметкі. Раённая газета «Комуніст» вмясціла-ж іх. Значыць, яны не так ужо дрэнна былі напісаны. Пісаць у газету я хачу, але калі бачу, што па маіх матэрыялах рэдакцыяй нічога не зроблена, тады, зразумела, ахвота адпадае пісаць. У «Комуніст» і іншыя газеты, якія з увагай адносяцца да пісем рабкораў, я часта пішу.

## СОТНІ ГАЗЕТ НЕ ДАСТАЎЛЕНЫ ЧЫТАЧАМ

**Тав. Галубец—рэдактар штодзённікі стандартнага цэха.**

Рэдакцыя нашай шматтыражкі зусім не звярачае ўвагі на дастаўку газеты чытачам. А між тым у цэхах на шафах ляжаць вялікія груды газет, якія не разданы рабочым. Узяць хоць-бы наш стандартны цэх. Тут вы знойдзеце на шафах сотні газет, выпушчаных у

гэтым месяцы. Рабочыя іх яшчэ не чыталі.

А што робіцца ў самой рэдакцыі? Архіва і рэгістрацыі заметак няма, уліку рэагавання таксама, а адсюль і слабая барацьба за дзейснасць кожнага пісьма рабкора.

Перада мной нумар газеты ад 10 снежня. У гэтым нумары няма ніводнага радка аб дасягненнях у рабоце, аб лепшых людзях. Суцэльная чорная пляма, нібы нічога добрага на камбінаце і няма. Трэба пісаць не толькі аб недахопах, але і аб добрай рабоце.

Слаба працуе рэдакцыя і над афармленнем газеты: рэдка калі ўбачыш клішэ, карыкатуру. Я ведаю, што калі мая штодзёнка лепш мастацкі аформлена, яе тады лепш і чытаюць рабочыя. Тое-ж самае і з шматтыражкай. Гэта рэдакцыі трэба ўлічыць.

## ГАЗЕТУ ПАВІННЫ ТВАРЫЦЬ МАСЫ

**Тав. Ляноўскі—парторг лесацэха № 1.**

— На нашым лесакамбінаце працуюць 4 тысячы рабочых, а рабкораў мы налічваем толькі дзесяткі. Увесь матэрыял у шматтыражку пішуць самі работнікі рэдакцыі. У адным толькі нумары газеты было 8 заметак т. **Розенберга.**

Як арганізоўваецца матэрыял для газеты? Работнік рэдакцыі прыходзіць у цэх, нахаду пагаворыць з адным-двума рабочымі і заметка гатова. У выніку мы маем такія факты. Лесацэх № 3 выканаў сваю норму работы ў прыгараднай гаспадарцы. Аб гэтым на агульным сходзе рабочых заявіў начальнік прыгараднай гаспадаркі. Праз дзень прыносяць газету **«За ўдарныя тэмпы»** а там пад загалоўкам «Галаваццяпы зрываюць работу на прыгараднай гаспадарцы» што называецца «разносіцца ў пух і прах» увесь лесацэх № 3. Рабочыя былі абураны такім фактам.

Або другі факт. Газета пісала: «Баба сыравіны знаходзіцца ў глыбокім прарыве». Чаму-ж ёй пасля гэтага не паказаць на прыкладах работы лепшых ударнікаў, як трэба і можна выйсці з прарыву. Гэтага газета наша не робіць.

## РЭДАКЦЫЯ ЗАЎСЁДЫ НА ЗАМКУ

**Тав. Баравік — рабочы-механік**

— Наша шматтыражка ўпусціла вельмі важнае для рабочага чытача— раённую, рэспубліканскую і міжнародную інфармацыю. Чытач наш хоча ведаць не толькі аб тым, што робіцца на камбінаце, ён у праве патрабаваць ад газеты, каб яна асвятляла паасобныя цікавыя падзеі ў раёне, рэспубліцы, а таксама і ў міжнародным становішчы.

Аб усіх нашых заўвагах адносна газеты рэдакцыя магла ведаць многа раней. Але ўся бяда ў тым, што рэдакцыя нас ніколі не збірала, не гаварыла з намі аб рабоце газеты. Можна-б і самому зайсці да рэдактара. Але калі ні прыдзеш у рэдакцыю, заўсёды яна на замку. Работнікаў рэдакцыі цяжка знайсці. Трэба, каб работнікі шматтыражкі цясней звязаліся з чытачамі-рабочымі камбіната.

□ □



На канферэнцыі чытачоў шматтыражкі бабруйскага дрэваапрацоўчага камбіната.

# Двурушніку прадаставілі старонкі газеты

«Брудныя падонкі былой зіноўеўскай антысавецкай групы, нікчэмныя паслядкі сваіх не менш нікчэмных ідэйных натхніцеляў, яны хацелі тэрарыстычнымі актамі ўнесці замяшанне ў жалезныя рады партыі Леніна—Сталіна.

Ленінска-сталінскую палітыку партыі яны марылі змяніць у духу даўно разгромленых зіноўеўска - трацкісцкіх поглядаў. Яны марылі аб звяржэнні кіраўніцтва партыі і савецкай дзяржавы».

Так пачала свой перадавы артыкул газета **«Сцяг Окцябра»** ў нумары 5 ад 3-га лютага.

У гэтым артыкуле газета выкрывае дзейнасць асобных антысавецкіх элементаў фабрыкі, якія распаўсюджвалі сярод рабочых розныя контррэвалюцыйныя зіноўеўска-трацкісцкія погляды.

Газета ў сваіх вывадах мабілізоўвае ўвагу рабочых і ўсіх арганізацый фабрыкі на павышэнне бальшавіцкай класавай пільнасці.

Выявіць і выкрыць усе махінацыі астаткаў класава-варожых элементаў — вось аснова зместу змешчанага матэрыялу.

Газета зрабіла зусім правільна.

**Але** побач з гэтым артыкулам змяшчаецца пісьмо нейкай **Фрыдлянд.** З пісьма мы даведваемся, што Фрыдлянд выключана з партыі за прыналежнасць да контррэвалюцыйнага трацкізма, што Фрыдлянд не толькі ідэйна, але і арганізацыйна была звязана з агентамі контррэвалюцыі — трацкістамі, хавала ў сябе на кватэры іх літаратуру, захоўвала актыўную контррэвалюцыйную дзейнасць свайго мужа. Фрыдлянд у сваім пісьме лічыць, што яна «памылілася», і яе памылкі заключаюцца толькі ў тым, «што я паверыла словам беспартыйнага мужа».

Аб сваіх памылках Фрыдлянд ні слова не гаворыць, яна аб гэтым умоўчвае. Яна толькі просіць даць ёй магчымасць павысіць свой палітычны ўзровень.

Пад пісьмом рэдакцыя **«Сцяг Окцябра»** дае сваю прыпіску, мы прыводзім яе поўнасцю:

> **«Тав. (?!) Фрыдлянд выключана з партыі за неіскрэннасць. Яна скрывала перад партыйнай арганізацыяй фабрыкі контррэволюцыйную дзейнасць свайго мужа — трацкіста контррэволюцыянера, выключанага з партыі ў 1929 г. «Прызнаючы» ў лісце правільнасць рашэння аб яе выключэнні з партыі Фрыдлянд у сваім лісце яўна змазвае і скрывае перад грамадскасцю фабрыкі контррэволюцыйную дзейнасць свайго мужа».**

Фрыдлянд двурушнік. Фрыдлянд да канца засталася вернай контррэволюцыйнаму трацкізму, яна пераняла ўсе метады работы зіноўеўска-трацкісцкіх падонкаў у барацьбе з партыяй і рабочым класам.

Ці не ясна, што мы маем справу з яўнымі падонкамі зіноўеўска-трацкісцкай контррэволюцыі?

Пытаем, хто дазволіў рэдакцыі **«Сцяг Окцябра»** прадаставіць старонкі бальшавіцкага друку падонкам зіноўеўска-трацкісцкай контррэволюцыі?

Чаму газета «Сцяг Окцябра» не выкрыла Фрыдлянд як праваказатара, двурушніка, ворага нашай партыі і рабочага класа?

Чаму газета «Сцяг Окцябра», пішучы прыгожыя радкі аб контррэволюцыйнасці трацкізма, заклікаючы ўсіх і кожнага да павышэння бальшавіцкай класавай пільнасці, сама дапускае яўную страту бальшавіцкай пільнасці.

Інакш як можна расцэньваць факт змяшчэння на старонках газеты двурушніцкага пісьма контррэволюцыянеркі Фрыдлянд.

Цяжэйшую палітычную памылку дапусціла рэдакцыя «Сцяг Окцябра», змяшчаючы пісьмо Фрыдлянд.

Бязлітасна выкрываць малейшае праяўленне двурушніцтва, а не ўступаць з ворагамі ў дыскусіі, як гэта робіць рэдакцыя «Сцяг Окцябра», не даваць ім магчымасці выкарыстоўваць старонкі нашага бальшавіцкага друку для агідных контррэволюцыйных мэт.

## РАБОТА З РАБСЕЛЬКОРАМІ І ПІСЬМАМІ ПРАЦОЎНЫХ

★ ★ ★

Р. Додзін

# Сістэма безадказнасці і бюракратызма

Патрабаванне XVII партыйнага з'езда—асноўную ўвагу звярнуць на праверку выканання—для рэдакцыі большэвіцкай газеты азначае ў першую чаргу праверку рэагавання на пісьмы рабочых і калгаснікаў, барацьбу за большэвіцкую дзейснасць друку, каб ні адзін сігнал рабкора і селькора не астаўся пустым гукам.

Ад уважлівых адносін да пісем, ад хуткасці і правільнасці рэагавання на іх залежыць і далейшае разгортванне самакрытыкі і ўцягненне ў соцыялістычнае будаўніцтва новых сотень і тысяч працоўных.

Работнікі лёзненскай раённай газеты (рэдактар т. **Мінчукоў)** не разумеюць палітычнага значэння гэтага пытання, безадказна адносяцца да пісем, да барацьбы за іх дзейснасць.

Сама сістэма ўліку рабселькораўскіх заметак і рэагавання на іх, заведзеная ў рэдакцыі, нараджае безадказнасць і неразбярыху. Заметкі рэгіструюцца на разрозненных лістках. Графа для адзнак «што зроблена з заметкай» не запаўняецца. Таму ўжо праз кароткі час пасля паступлення заметкі рэдакцыя не можа даць адказ аўтару, што зроблена па яго матэрыялу.

Па даных рэдакцыі, у 1934 годзе паступіла 1315 заметак. Лічба да таго невялікая, што яна давала рэдакцыі магчымасць сапраўды сур'ёзна працаваць над кожным пісьмом. Але гэтага не было. Іменна рэзультатам адсутнасці гэтай работы з'яўляецца такое слабае паступленне заметак.

Што-ж рэдакцыя зрабіла з атрыманымі заметкамі? 560 заметак было паслана на расследванне. А астатнія 755, што з імі зроблена? Гэтага ўстанавіць нельга. Большэвіцкіх клопатаў аб кожным пісьме рабселькора ў рэдакцыі няма.

Рэдакцыю зусім не цікавіць лёс пісем, якія пасланы на расследванне. «З рэдакцыі адправілі—з плеч далоў»—так лічаць работнікі газеты. Ад раённага аддзела народнай асветы, ад райкома камсамола за ўвесь 1934 год не паступіла ніводнага адказу на дзесяткі пасланых заметак. Але рэдакцыю гэта ніколькі не турбуе. Раённы пракурор і начальнік міліцыі па-чыноўніцку рэагуюць на пісьмы селькораў, а рэдакцыя штампуе іх бюракратычныя адпіскі.

Падамо некалькі прыкладаў. У ліпені рэдакцыя паслала начальніку райміліцыі т. **Каптуру** заметку аб тым, што ў калгасе «Віцебскі пролетарый» кулакі стрыгуць каласы. Адказу аб прынятых мерах рэдакцыя не атрымала. У студзені, калі ў міліцыі, відаць, ачышчалі сталы ад леташніх залежаў, знайшлі і гэту заметку. Знайшлі яшчэ дзесяткі заметак. І начальнік міліцыі т. Каптур спяшаецца «рэагаваць» на іх. 7 студзеня ён адпраўляе цэлую пачку адказаў рэдакцыі, сярод іх і такія: «На ваш № 93 аб стрыжцы каласоў у калгасе «Віцебскі пролетарый» паведамляем, што гэта справа знаходзіцца ў стадыі расследвання».

Гэтыя звышбюракратычныя адносіны начальніка міліцыі да важнейшых сігналаў аб раскрадванні соцыялістычнай маемасці, падрыве эканамічнай магутнасці калгаса нават не здзівілі рэдакцыю. Яна спакойна прышыла гэты чыноўніцкі адказ у папку «рэагавання».

На заметку, пасланую таму-ж начальніку міліцыі 14 кастрычніка аб тым, што брыгадзір калгаса «Барацьбіт» Казлоў згнаіў і ўкраў 20 пудоў аўса і 10 пудоў пшаніцы, Каптур 7 студзеня таксама адказаў, што «справа гэта ў стадыі расследвання». 3 месяцы марынуе міліцыя справу аб раскрадванні соцыялістычнай маемасці, а райгазе

та з гэтым міроыцця. Адказ міліцыі і на гэты раз рэдакцыя спакойна прышыла да справы.

Лёзненскі пракурор т. **Савасцюк** рашыў узяць першынства па чыноўніцкіх адносінах да пісем селькораў. **«Ленінскі сцяг»** змясціў 27 верасня калектыўнае пісьмо вучняў Бабінаўскай школы аб тым, што дырэктар школы Вярбіцкі —былы дзяк, ужывае фізічныя метады ўздзеяння да вучняў. Пракурор на працягу 40 дзён вёў «дакладнае расследванне» і ў рэзультаце ў лістападзе прыслаў рэдакцыі такі адказ:

> **«Пракуратура паведамляе, што факты ўжывання з боку дырэктара Бабінаўскай школы Вярбіцкага Паўла антыпедагагічных метадаў выхавання дзяцей, зробленым расследваннем цалкам пацвердзіліся, але прымаючы пад увагу, што Вярбіцкі на рабоце як педагог і адміністратар сябе апраўдаў, пракуратура лічыць немэтазгодным прыцягваць яго да крымінальнай адказнасці».**

Наўрад ці можна знайсці больш яркі ўзор палітычна няправільнага дакумента. **Устанавіць, што дырэктар сапраўды біў дзяцей і адначасова прызнаць, што ён «як педагог і адміністратар сябе апраўдаў»** можа толькі чалавек, які не разумее задач савецкай школы, чалавек, страціўшы палітычнае чуццё.

Рэдакцыі «Ленінскага сцяга» патрабавалася **больш 2-х месяцаў**, каб адважыцца выступіць з крытыкай гэтага адказу. Гэта «храбрасць» рэдакцыі тлумачыцца, як відаць, тым, што з бабінаўскай школы ішоў паток пісем аб тым, што амністыраваны пракурорам дырэктар Вярбіцкі прадаўжае здзекавацца з вучняў. 8-га студзеня газета выступіла па гэтаму пытанню на сваіх старонках. І яна кваліфікавала гэта так: «У справе аб Вярбіцкім тав. Савасцюк і Вугалёў (загадчык райана.— Р. Д.) праявілі палітычную слепату, недаацэнку важнасці факта і таму ўся адказнасць за збіенне школьнікаў кладзецца на іх саміх нараўне з Вярбіцкім».

Прайшло ўжо каля месяца, а выступленне газеты нікога нават не кранула. Стрэл аказаўся халастым. Вярбіцкі прадаўжае антысавецкую работу. Пракурор і загадчык райана пакрыўджана паглядаюць на рэдактара і спакойна чакаюць—а можа ўляжацца, а рэдакцыя лічыць свой абавязак выкананым.

Так цягнецца ад пракуратуры да рэдакцыі газеты ланцужок безадказных, антыпартыйных адносін да пісем селькораў.

Лёзненскі райком КП(б)Б павінен сур'ёзна заняцца работай сваёй газеты, заняцца, нарэшце, пытаннямі рэагавання на пісьмы працоўных, прыцягнуць да партыйнай адказнасці бюракратаў з рэдакцыі, міліцыі, пракуратуры, ігнаруючых дырэктывы партыі аб рабоце з пісьмамі і рабселькораўскімі заметкамі.

---

Е. ВАЛЬФСОН

# ГАЗЕТА, СТРАЦІУШАЯ КЛАСАВУЮ ПІЛЬНАСЦЬ

«Бальшэвіцкі друк» яшчэ ў сакавіку мінулага года пісаў (глядзі ў 5—6 нумары артыкул «Аб «нясталых» селькорах і ігнараванні пісем калгаснікаў») пра тое, што ельская раённая газета не працуе з рабселькорамі і над пісьмамі працоўных, што «работай з рабселькорамі і пісьмамі ведае рахункавод Марозава і тэхсакратар рэдакцыі Слуцкая» і адгэтуль:

> **«Карэспандэнцыі селькораў і пісьмы працоўных у рэдакцыі глыбока не вывучаюцца. Іх прачытваюць «наспех», каб толькі схапіць галоўнае». У выніку каштоўнейшыя пісьмы вельмі часта беспадстаўна трапляюць у архіў забракаваных заметак».**

З таго часу прайшло 10 месяцаў. Тэрмін дастатковы, каб перабудаваць работу, выправіць грубую памылку— ігнараванне работы з рабселькорамі і пісьмамі працоўных.

Газета-ж «Бальшэвіцкі змагар» не толькі не выправіла дапушчаных памылак, але паглыбіла іх. Рэдакцыя дапусціла засмечанасць рэдкалегій насценгазет і рабселькораў класава-варожымі элементамі, якія, прыкрываючыся зван-

нем работнікаў нізавога друку, праводзілі кулацкую, антыкалгасную работу.

Гутарка будзе ісці аб калгасе «Чырвоны Окцябр», Каменскага сельсовета. На працягу доўгага часу гэты калгас быў засмечан класава-варожымі элементамі, якія, прабраўшыся на ,важнейшыя кіруючыя работы, імкнуліся разваліць калгас з сярэдзіны.

Засмечана была чужымі людзьмі і рэдкалегія насценгазеты. Рэдактар насценгазеты **Захарэнка Цімох**—зяць раскулачанага і высланага кулака. Захарэнку судзілі за растрату дзяржаўных грошай. Доўгі час ён займаўся кантрабандай, пераходзячы кітайскую граніцу, каля якой ён пражываў і адкуль уцёк.

Член рэдкалегіі **Лемба Юля**—жонка судзімага, антысовецкі настроены элемент. Шмат было выпадкаў, калі яна агітавала калгаснікаў не выходзіць на работу.

**Русецкі** — у мінулым цвёрдазаданнік, член рэдкалегіі.

**Кашавенка Анюта**—паходзіць з дваран, працуе ў якасці загадчыка СТКФ і МТКФ. Толькі за апошні час, у выніку шкодніцкай яе работы, загінула 20 свіней. Цялят пояць халоднай вадой. Адсюль бываюць выпадкі захворвання цялят. Кашавенка—ярая антысемітка, адкрыта распальвае нацыянальную варожасць паміж яўрэямі і беларусамі. Выступала супроць продажу лішкаў хлеба дзяржаве. Яна таксама лічылася актыўным членам рэдкалегіі. Яна-ж і член праўлення калгаса, як і рэдактар насценгазеты Захарэнка.

Мы паказалі толькі членаў рэдкалегіі насценгазеты. Па сутнасці яны варочалі ўсімі справамі калгаса. Па іх віне ў калгасе не хапае кармоў, раскрадзена 5 коп грэчкі, 2 капы жыта і інш.

Каб замазаць усе гэтыя злачынствы, каб адцягнуць ад іх увагу калгаснікаў, гэта рэдкалегія выпускала пахабную насценгазету, у якой змяшчала такую пашляціну, як і хто з кім гуляе, як хто спіць.

Так насценгазета была ператворана класава-варожымі элементамі ў рупар кулакоў.

Як-жа да гэтых наглых вылазак класавых ворагаў аднеслася раённая газета «Большэвіцкі змагар»?

Лепшыя калгаснікі, бачачы гэтыя агіднасці, напісалі ў «Большэвіцкі змагар» карэспандэнцыю, просячы палажыць канец злачынствам, дапамагчы ачысціць калгас ад класава-варожых элементаў. Намеснік рэдактара **Аблажны,** палічыўшы, што гэтыя факты «малаважныя», доўга пратрымаўшы ў сябе заметку, адаслаў яе ў райза, дзе яна і загінула. Толькі калі аналагічныя сігналы з'явіліся ў «Звяздзе» і «Калгасніку Беларусі» у «Большэвіцкім змагары» схамянуліся, сталі шукаць заметку, але не знайшлі.

Рэдактар **Тучэнка** пасылае ў калгас свайго намесніка Аблажнага, каб ён на месцы праверыў гэтыя факты. Аблажны, праседзеўшы ў калгасе тры дні, варочаецца адтуль і заяўляе:

— Нічога асаблівага там няма, ёсць асобныя непарадкі, як і ў многіх калгасах.

Трэба поўнасцю страціць рэволюцыйную пільнасць, каб не бачыць таго, што рабілася ў калгасе, каб звесці ўсё к простым непаладкам.

Месяцаў тры назад бюро ельскага РК КП(б)Б прапанавала рэдакцыі «Большэвіцкага змагара» зрабіць агляд насценгазеты калгаса «Чырвоны Окцябр», выкрыць класава-варожы твар, кулацкую дзейнасць рэдкалегіі гэтай газеты, правесці перавыбары рэдкалегіі. Райком прапанаваў рэдактару раённай газеты на гэтым факце ўзняць рэволюцыйную пільнасць усяго нізавога друку і селькораў, усіх пярвічных партыйных і комсамольскіх арганізацый раёна.

Гэту пастанову райкома рэдакцыя «Большэвіцкага змагара» не выканала і зараз.

Гэта яшчэ раз сведчыць аб тым, што сама рэдакцыя ельскай раённай газеты страціла класавую пільнасць, дала магчымасць класава-варожым элементам кампраметаваць нізавы друк, скарыстоўваць яго для сваёй злачыннай дзейнасці.

Мы спадзяемся, што ельскі РК РК(б)Б зробіць належныя вывады ў адносінах работы сваёй раённай газеты і асобных работнікаў, якія страцілі класавую пільнасць і не вядуць барацьбы за ачышчэнне рабселькораўскіх радоў і нізавога друку ад класава-варожых элементаў.




# „Спецыяльныя карэспандэнты" і надзвычайны „штыль" лельчыцкай газеты

**«Бадзёрасць і вясёлае ажыўленне АКУТАЛА ўсіх калгаснікаў, усіх працоўных Буйнавіцкага сельсовета»...**

Гэта было 25 студзеня.

Што-ж такое надзвычайнае здарылася ў Буйнавіцкім сельсовеце, у якім усіх працоўных «акутала ажыўленне»?

Пачытайце лельчыцкую раённую газету за 3 лютага і вы даведаецеся, што

**«25 студзеня — быў надзвычайным днём».**

Аказваецца, у гэты дзень калгас «Чырвоны ўдарнік 2-й большэвіцкай вясны» рабіў пробны выезд у поле. У гэты дзень старшыня калгаса Бараноўскі

**«што камандзір на прыгожым кані вядзе за сабой калгасную армію на соцыялістычнае поле, дзе БУДЗЕ КІПІЦЬ творчая калектыўная работа, дзе будуць красавацца буйныя калоссі калгаснага ўраджаю».**

Якая вобразнасць, які высокі «штыль»! У парыве «творчага натхнення» аўтар парыса аб пробным выездзе ў поле піша далей:

**«41 падвода выехала, у тым ліку 29 пар БУЙНЫХ РАГАТЫХ ВАЛОЎ».**

Аказваецца буйныя валы могуць быць і не рагатыя!

**«А на вазах ляжаць вінтавыя і поўвінтавыя, складаныя і простыя плугі, якія ў АДЗІНА ЦЭЛАЕ СКЛАДАЮЦЬ ВЯЛІКУЮ ТЭХНІЧНУЮ СІЛУ».**

Ці дзіва пасля гэтага, што не вытрымала

**«адна курносая дзяўчына»,**

закрычала:

**«браточкі мае, што ў іх робіцца»,**

што

**«не стрымаў маленькі калгасны хлапчук Руднік Пятро, ЯК СТРЭЛ ён зляцеў з воза, ухапіў чырвоны флаг і стаў у перадавых шарэнгах аратых».**

І ўсё гэта па думцы лельчыцкай газеты павінна азначаць

**«найлепшы СІМВАЛ гатоўнасці калгаса да большэвіцкай вясны».**

Аўтар усёй гэтай няграматнай балбатні скромна схаваўся за подпісам **«Я»**. Менш скромным аказаўся аўтар другой

Рыс. Н. МАЛЕВІЧА.



артыкула, змешчанага радам з нарысам гэтага таямнічага «Я».

«Спецкор газеты «Калгаснік на варце» ЭРЛАХ»—так значыцца пад артыкулам, які займае дзве поўныя калонкі газеты.

Дзе-ж гэта «Калгаснік на варце» мае свайго ўласнага спецкора? Аказваецца, недалёка: тут-жа, у саміх Лельчыцах, пад бокам у рэдакцыі. Піша ён з... памяшкання райвыканкома. Піша аб кустовой нарадзе старшынь калгасаў Картынішкага, Стадоліцкага і Лельчыцкага сельсоветаў.

Але важна не гэта. Важна, як піша.

**«Адзін за адным выступалі старшыні. Сухімі лічбамі ў руках яны паказалі сваю бяздзейнасць».**

Спецкор лельчыцкай газеты імкнецца давесці, што старшыня калгаса «КІМ» пачаў сваё выступленне так:

**«У гектарах не ведаю, а толькі ў цэнтнерах. У цэнтнерах таксама не ведаю, а толькі па культурам».**

Эрлах так прама і піша, што

**«Гэта так пачаў сваё выступленне старшыня калгаса «КІМ» Шпакоўскі».**

Даруйце, т. Эрлах, не верым, што Шпакоўскі так пачаў сваё выступленне. Не верым мы і таму, што Шпакоўскі гаварыў:

**«Прыпліў, няма з каго прыліваць»**

Не верым, што старшыня калгаса «Новая ніва» Зуевіч на нарадзе заявіў:

**«2 кабылы НЕ АБАРЦІРАВАЛІСЯ ВЕДАЮ па якім прычынам. 3 патрэбных вывесці 750 к. м. леса, вывез 20 к м лесаматэрыяла».**

Не гаварыў гэтага Зуевіч, як не гаварыў і Рафаловіч (старшыня калгаса імя Войкава) такіх слоў:

**«Класавы вораг так арудуе за калгасам, што не магу урэгуліраваць, як своечасова разбіць яго. 2 лютага прыедзе кавель тады возьмемся за рамонт інвентара».**

Гэта вы самі, т. Эрлах, эмешваеце ў адну кучу работу кулакоў і прыезд каваля, абрую з насценгазетай. Паслухайце толькі, што вы напісалі!

**«Збруя зусім не прыгодна, насцен. газеты не выпускаюцца».**

Гэта самі работнікі лельчыцкай газеты пішуць, што

**«Былы рахункавод калгаса «Чырвоны прамень»... ЖАРОБНАЙ КАБЫЛАЙ ЕЗДЗІЎ у Грэбені на прэзідыум сельсовета...**

**... Калгаснік Макарэвіч ЕЗДЗІЎ КАБЫЛАЙ да таго часу, пакуль яна абарціравалася».**

Як гэта можа калгаснік «ездзіць жаробнай кабылай»?

Пасля ўсяго гэтага ў нас узнікае пытанне да рэдактара лельчыцкай газеты: ці правіце вы, т. **ШАТРУКОЎ,** матэрыял, які ідзе ў газету, ці чытаеце вы яго наогул?

На апошняй паласе газеты значыцца-ж ваш подпіс: **Ф. ШАТРУКОЎ.**

## „РАМОНТ—У БАЯВУЮ ГАТОЎНАСЦЬ“

**«Рамонт сельгасінвентара — у поўную баявую гатоўнасць»** — заклікае лёзненская раённая газета **«Ленінскі сцяг»** у нумары ад 3-га лютага.

Працяжнік у сярэдзіне загалоўка паміж словамі «сельгасінвентара» і «ў поўную» павінен, мабыць, азначаць слова «прывесці». Але і з гэтым словам загаловак астаецца зусім бязглуздым.

Можна, т. **Мінчукоў,** адрамантаваць, прывесці ў баявую гатоўнасць (калі вам ужо так падабаецца гэты выраз) інвентар. А як гэта можна «прывесці ў поўную баявую гатоўнасць **рамонт** інвентара», гэтага, даруйце, мы ніяк не можам зразумець.

## ДЗЕ-Ж ПАЧАТАК ПАСТАНОВЫ

У нумары **уздзенскай** раённай газеты за 18 студзеня змешчан **«Праціяг пастановы РВК аб правядзенні на тэрыторыі Уздзенскага раёна мясцовых падаткаў і збораў у 1935 г.».**

Мы ўважліва прагледзелі нумар **«Калгасніка Уздзеншчыны»** і за 17 студзеня, і раней вышаўшыя нумары, аднак, пачатку гэтай пастановы так і не знайшлі.

Не надрукаваў «Калгаснік Уздзеншчыны» пачатку пастановы.

Навошта-ж чытачоў уводзіць у зман, таварышы з уздзенскай газеты?

Навошта-ж, змяшчаючы «працяг», прымушаць іх шукаць нязмешчаны пачатак?

# „Драпежніцкія, з драпежніцкімі, па-драпежніцку“

Работнікі лельчыцкай раённай газеты **«Калгаснік на варце»** атрымалі спецыяльнае заданне ад рэдактара: сабраць усе накопленыя ў рэдакцыі заметкі з розных калгасаў аб кулацкай падрыўнай рабоце, безгаспадарчасці і т. д. і «ўціснуць» іх у адну паласу.

Работнікі рэдакцыі добрасумленна выканалі заданне рэдактара.

У выніку 8-га лютага ў «Калгасніку на варце» з'явілася паласа з аншлагам «Вышэй класавую пільнасць». Аб змесце гэтай паласы сведчаць прыведзеныя ніжэй загалоўкі заметак.




Рыс. Н. Малевіча.

**«Замест праўленне калгаса, праводзіць работу класавы вораг».**

**Кулацкія вылазкі Казачка Рыгара асуджаны калгаснікамі калгаса «Перамога».**

**«Калгас імя Танева патрабуе аздараўлення».**

**«Дрэнна ахоўваецца маёмасць у калгасе «Чырвоная зорка».**

**«Сурова караць растратчыкаў каапарацыйных грошай».**

**«Палуянава гнаць з работы».**

**«Пакончыць з драпежніцкімі адносінамі да цягавай сілы».**

**«Драпежніцкія адносіны да каня».**

**«Па - драпежніцку адносяцца да цягавай сілы».**

**«Сабатажніцкія махінацыі Флорка».**

**«Маладняк падае, а праўленне калгаса не звяртае на гэта ўвагі».**

**«Да вясны не рыхтуюцца».**

Гэтым загалоўкам адпавядаюць і «рэдакцыйныя вывады» ў канцы кожнай заметкі.

**«Слова за пракурорам».**

**«Сельсовету трэба прыняць меры к аздараўленню калгаса».**

**«Праўленне калгаса, прымі меры».**

**«Т. Сухамлінаў, унікні ты ў гэту справу»,**

**«Райза трэба звярнуць на гэта сур'ёзную ўвагу».**

**«Сіманіцкі сельсовет, прымі меры».**

**«Пракурору неабходна з гэтага зрабіць адпаведныя вывады»** і т. п. і т. п.

Нельга так рабіць газету, т. **ШАТРУКОЎ.**

# „ПРАЦЯГ У НАСТУПНЫМ НУМАРЫ“

**«Бальшэвіцкі друк»** не раз на прыкладзе газет «Калгаснік Кармяншчыны», «Чырвоны сцяг» (Чырвонапольле) і інш., указваў на недапушчальнасць абрыву артыкулаў на слове ці паўслове з пераносам «працяга» ў наступны нумар.

Але ў рэдакцыі **«Ленінскага сцяга»** (Лёзна) лічаць: «тое, што пішуць пра іншыя газеты, нас не датычыць». І таму, 3-га лютага газета абрывае даклад т. **Молатава** на 7 з'ездзе советаў СССР на словах «Справа будзе залежаць» і ўказвае: «Працяг у наступным нумары».

Гэта — здзек з чытача і з газеты т. **Мінчукоў.**

## ЗМЕСТ



Менск, друкарня „Звязды", заказ № 109. Здана у набор 6-ІІ-35 г. Падпісана да друку 15-2-1935 г.
Уп. Галоўлітбела № 2844. Тыраж 1.140 экз. 2 з пал. друк. арк. У арк. 73.600 зн.



